№ 20 (761) 30 мая 2012

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сер

## З чым найлепш есці беларускі Ракфорці?



З чым трэба прымірыцца, з чым нельга пагадзіцца. І што за цвіль у ім? Старонка 15.

## Лорын: нетыповая зорка шоў-бізнэсу



Прадзюсар Litesound пра Лорын: Баба Яга, толькі маладая. Старонка 11.

# Лукашэнка ім не ўказ

Навагрудскія ўлады працягваюць **выразаць лесапалосы**. **Старонка 6.**



СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Тэндэнцыі**

## Вароты ў ЕўраАзію ці праход у Азіёпу?

Які план Пуціна на Беларусь?

«Беларусь — гэта не задворкі Еўропы, а вароты ў ЕўраАзію, ключ да ўвасаблення ідэі інтэграцыі інтэграцый, — заявіў Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў часе канцэрта да 1150-годдзя Полацка, — бо аб'яднанне патэнцыялаў Еўрапейскага і Еўразійскага саюзаў дасць магчымасць стварыць зусім новыя магчымасці для краін і народаў. У гэтай ідэі мы бачым найважнейшую місію і геапалітычную ролю нашай дзяржавы як злучва», — заявіў афіцыйны кіраўнік.

У выказванні Лукашэнкі бачыцца фармулёўка новага замежнапалітычнага курсу. Гаворка больш не ідзе пра выключнасць адносінаў з Расіяй. Беларусь хоча ўраўнаважыць залежнасць ад Расіі эканамічнымі інтарэсамі Еўропы.

Аднак у Еўразійскім саюзе, як і ў Мытным саюзе, Беларусь ужо нічога не вырашае. Прыкладам сталі пошліны на аўтамабілі: Расія падняла іх у прымусовым парадку. Усе суседзі Беларусі выбралі шлях пабудовы нацыянальных дзяржаваў, дэмакратыі і прыватнай уласнасці. Для абароны сваіх інтарэсаў яны і аб'ядналіся ў Еўрасаюз, які складаецца з сувымерных дзяржаў. Аналітыкі падазраюць, што Пуцін прадугледжвае для Беларусі іншую будучыню. **Візіт Пуціна ў Мінск — старонка 3.**

**Гаспадыня**

### Гіпермаркет ці рынак?

Дзе выгадней купляць садавіну-гародніну? **Старонка 5**.



**Пра-бел**

### Пакаленне пераможцаў

Давайце параўнаем 1987 і 2012. Піша Сяргей Харэўскі. **Старонка 7**.



**Пошта**

### «Плакалі мае 80 тысяч»

Як я здаваў білеты на «Мінск-Арэне», якія мне ўцюхалі ў школе. **Старонка 12**.



**Тэхналогіі**

### Топ-5 беларускіх праграм для Андроідаў

Навіны, баланс, расклад руху... **Старонка 15**.




## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Школьныя абеды ў нас і ў іх

**Блог дзяўчынкі** з Шатландыі стаў сенсацыяй: 1,5 мільёна наведнікаў за 3 тыдні.

Усё пачалося з таго, што 9-гадовую жыхарку Шатландыі Марту Пэйн не задавальняла ежа ў школьнай сталоўцы. Дзяўчынка пачала фатаграфаваць школьныя абеды і змяшчаць фота ў блогу neverseconds.blogspot.de, стварыць які дапамог бацька. Кожны здымак ацэньваўся па 10-бальнай шкале выдуманага ёй «абедамера». Марта таксама адсочвала карыснасць стравы, велічыню порцыі (колькасць кавалкаў-глыткоў), кошт абеду і нават колькасць знойдзеных валасоў (што, на шчасце, ні разу не здаралася).

Блог з фотаздымкамі «мізэрнай» ежы нечакана набыў вялікую папулярнасць. За некалькі тыдняў яго пераглядзелі 1,5 мільёна разоў. А на элекронную пошту Марты сталі прыходзіць фота школьных абедаў з усяго свету.

Сайт 9-гадовай дзяўчынкі прыцягнуў увагу сусветных СМІ і прыхільнікаў здаровага школьнага харчавання. Папулярныя брытанскія тэлевядучыя запрасілі яе з бацькам паўдзельнічаць у сваіх кулінарных шоу.



Марта Пэйн з татам.



Першы абед Марты...



...Апошні абед.



Дзяўчынка стварыла сайт, цікавы для школьнікаў з усяго свету.

У Беларусі вучням пачатковых класаў дзяржава гарантуе бясплатныя сняданкі. Згодна з нарматывамі, выдаткі на харчаванне аднаго дзіцяці (6—10 гадоў) складаюць 8 820 рублёў (для параўнання: абеды Марты каштуюць 2 фунты стэрлінгаў, ці каля 25 тысяч рублёў).

Вядомы повар Джэймі Олівэр даслаў школьніцы сваю кнігу з подпісам «Выдатная праца! Малайчынка, рабі гэта і далей!». Олівэр выступае супраць продажу ў школах фастфуду і слодычаў. Дзякуючы яму шмат у якіх школах Брытаніі паўфабрыкаты замянілі на «здаровыя» стравы.

Аднак самае галоўнае — дзяўчынка дамаглася зменаў у школьным меню.

«Гэта здарылася сёння! У чарзе за абедам нам афіцыйна паведамілі, што зараз нам дазваляецца браць столькі гароднiны, садавіны і хлеба, колькі хочам», — паведамляе Марта ў апошнім допісе на сайце.

Цікава, а што варта памяняць ці палепшыць у школьных абедах у Беларусі? Дасылайце прапановы на nn@nn.by або на іншыя адрасы Рэдакцыі.

**Аксана Рудовіч**

# Журналісты расставілі крыжыкі тэставання наўздагад

Тры вынікі — **усе прахадныя**. Бо мінімум для паступлення — 7 балаў на ЦТ са ста.

На энергетычны факультэт БНТУ летась паступіў абітурыент з вынікам тэста па фізіцы 1 бал са ста магчымых. Але хлопец вылецеў на першай жа сесіі. «Той ужо не вучыцца, паступіў на платнае. Усяго ў яго было 100 балаў, з усіх трох тэстаў. Але ён не здаў першую ж сесію, да фізікі не дайшоў», — прыгадваюць на энергетычным факультэце і спадзяюцца не на тэставанне, а на першую сесію.

У Брэсцкім педагагічным універсітэце хвалююцца. Бо прахадную мяжу для абітурыентаў павысілі да 7 балаў. І цяпер абітурыентаў.... не хопіць!!!

«Мы ж адсейваем 10–12%, калі ўводзім гранічны бал у 7 балаў. І можа атрымацца, што мы не запоўнім усе бюджэтныя месцы», — кажуць у прыёмнай камісіі ўніверсітэта.

«Летась былі і тыя, хто з 2 баламі па профільных прадметах паступаў. Але яны не здалі першую ж сесію. Менш за 20% правільных адказаў, нават і гаворкі няма пра тое, каб браць такіх ва ўніверсітэт», — шчыра прызнаюцца на фізічным факультэце БДПУ імя Максіма Танка.

Сёлета абітурыенты, якія набралі менш за 7 балаў са 100 магчымых, не могуць паступаць у ВНУ.

А ці складана набраць гэтыя 7 балаў на тэставанні? Набываем дапаможнік «Фізіка, аналіз памылак» ад Інстытута кантролю ведаў за 2011 год.

Знаходзім трэніровачны тэст. Журналісты «рашалі» тэст утраіх, нават не чытаючы заданняў, крыжыкі ставілі наўздагад. Максімальны бал — 9,5. Астатнія двое набіраюць неабходныя для паступлення 7 балаў.

Можна ісці на фізфак, па фізіках, кажуць, цяпер недабор. Дарэчы, летась сярэдні бал на тэставанні па фізіцы склаў усяго 18,6, а ў 2010-м — нават 14,4.

Калі назваць рэчы сваімі імёнамі, гэта азначае, што з хвалёных беларускіх школаў выходзяць вучні, якія ў масе сваёй не ведаюць абсалютна нічога.

Па меркаванні міністра адукацыі Сяргея Маскевіча, «мяжа ў 7 балаў дазволіць адсеяць каля 10 тысяч чалавек». А гэта прыкладна 10% ад усіх абітурыентаў.

Якасць навучання ў заходніх універсітэтах дасягаецца ў тым ліку і высокімі патрабаваннямі да студэнтаў.

Так, у Францыі пасля першага курса адсейваецца палова ўсіх студэнтаў — не здаюць сесіі. У Беларусі ж многія ВНУ можна скончыць, як і сярэднія школы, — з тым самым мінімумам ведаў.

**Арцём Мартыновіч, «Еўрарадыё»; Сяргей Гезгала**

# Не забудзьцеся падпісацца!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. №539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпіску можна на кожнай пошце.

**Рэкамендуем**

### Сталічны праграміст: кожны месяц я трачу 800 даляраў на забавы, а 400 аддаю маме

Я праграміст, мне 25 гадоў. Завуць мяне Кірыл, у мяне дзве працы....

### «Дзякуючы такім дурням, як я, Лукашэнка і прыйшоў да ўлады»

Як толькі мы сустрэліся ў Жодзіне з Аляксандрам Камароўскім, ён выцягнуў з мабільнага тэлефона батарэйку...

### «Мы, у адрозненне ад вас, спадары, не мычым»

Як на агурках зарабіць мільёны — у Столінскім раёне беспрацоўныя будуюць па тры дамы на сям'ю.

**Чытайце на nn.by.**

## Сцісла

**Матч «Тарпеда»—«Партызан» адменены**

Матч чэмпіянату Мінска паміж «Тарпеда» і «Партызанам», які меўся прайсці ў аўторак на стадыёне «Лакаматыў», перанесены на нявызначаны тэрмін. Прымаючы бок — «Тарпеда» — не змог гарантаваць бяспеку.

Уначы на аўторак нехта наведаўся на стадыён і размалявалі яго і прылеглыя дамы графіці. «Тарпеда» і «Партызан» — адны з самых непрымірымых супернікаў у Беларусі.

**Выкуп Статута: далучыўся Нацбанк**

Намеснік старшыні праўлення Нацбанка Сяргей Дубкоў 28 мая разаслаў ліст кіраўнікам камерцыйных банкаў. У ім ён просіць «разгледзець пытанне аказання бязвыплатнай (спонсарскай) дапамогі» Vузею гісторыі Магілёва. Гаворка ідзе аб выкупе ў Беларусь асобніка Статута Вялікага Княства Літоўскага арыгінальнага выдання (глядзі «НН» №19).

**Бацькі Канавалава пачалі выходзіць без аховы**

Пра гэта расказала Любоў Кавалёва, маці пакаранага разам з Канавалавым за саўдзел у тэрарызме Уладзіслава Кавалёва.

**Ад 1 чэрвеня вырасце кватрплата**

Плацяжы ўзрастуць на 8—9%.

**У Брэсце пабудуюць Marriott**

Гатэльная сетка выйграла тэндар на пабудову чатырохзоркавага гатэля. Тэндар праводзіўся ў Берліне кампаніяй «МФБ Дэвалапмент», інвестарам праекта.

**Найдзенку адставілі**

Генерал-маёр міліцыі Аляксандр Найдзенка вызвалены ад пасады начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. Калі Найдзенка працаваў у міліцыі Мінгарвыканкама, то нярэдка ўдзельнічаў у разгонах акцый апазіцыі.

**У БДУ знайшлі ртуць у рукамыйніку**

Здарэнне адбылося ў навучальным корпусе факультэта радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій (вуліца Курчатава, 5). МНС спрацаваў аператыўна, пацярпелых няма.

**СГ**

**Самае чытанае за 23—29 мая**

1 Барадач: Генерала Захаранку спалілі, а пасля спалілі і таго, хто яго спаліў
2 «Еўрабачанне»: Швецыя перамагла з рэкордным адрывам
3 «Мы, у адрозненне ад вас, спадары, не мычым»
4 Як на агурках зарабіць мільёны
5 Фанаты Litesound апаганілі дзяржаўны сцяг — фотафакт
6 Litesound у пралёце, хоць і адыграў нармальна
7 Тэрарыст у масцы з арабскім надпісам спрабаваў падарваць міліцыю ў Жлобіне
8 З «Буранаўскімі бабулямі» пасупернічаюць малдаване і румыны
9 Загінула 20-гадовая беларуская раварыстка Паліна Жук
10 Украінскія ДАІшнікі гавораць з расіянамі па-ангельску — вясёлае відэа

# Права першай ночы

Уладзімір **Пуцін прыязджае** ў Мінск.

31 мая — 1 чэрвеня Мінск наведае новы стары прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін. Гэта будзе першы замежны візіт расійскага кіраўніка.

Палітолаг Андрэй Суздальцаў, персона нон-грата ў Беларусі, нават з'едліва заўважыў, што Беларусі дасталося «права першай ночы». Аналітык Аляксандр Класкоўскі дадае, што выбарам першага візіту Пуцін «сутыкае лбамі васалаў». Маюцца на ўвазе Беларусь і Казахстан.

Цікава, але расійскія прэзідэнты не наведвалі Беларусь аж з 2009-га. Тады Дзмітрый Мядзведзеў прыязджаў у Мінск на пасяджэнне Еўразійскай эканамічнай супольнасці. Да гэтага Мядзведзеў яшчэ быў у Брэсце на адзначэнні ўгодкаў пачатку вайны 1941-га.

Пуцін і падчас свайго прэзідэнцтва, і падчас прэм'ерства наведваўся да Лукашэнкі непараўнальна часцей. Зрэшты, і кіраўнік Беларусі адзначаў, што размаўляць з Пуціным яму прасцей, чым з Мядзведзевым.

Напярэдадні візіту бакі называюць свае прыярытэты перамоваў. Лукашэнка сказаў, што хоча пагаварыць пра супольны з Расіяй экспарт калію. І хоча наладзіць такі ж экспарт азоту і фосфару. Пуцін жа паабяцаў абмеркаваць стварэнне парламента Еўразійскага эканамічнага саюза.

Наўрад ці перамовы скончацца толькі гэтымі момантамі. Беларусь ніяк не можа атрымаць апошні транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, а Расія — абяцання прыватызацыі некаторых прадпрыемстваў.

Не сказаць, што асаблівы энтузіязм выпраменьваюць і дзяржаўныя СМІ, асаблівага ўсхвалення еўразійскай інтэграцыі ў іх не назіраецца.

Дарэчы, каб забяспечыць спакой у дні знаходжання Пуціна, паарыштоўвалі малададфронтаўцаў. Як расказаў адзін з затрыманых праз адваката, супрацоўнікі КДБ падчас допытаў у Цэнтры ізаляцыі адкрытым тэкстам паведамілі маладафронтаўцам: «Будзеце сядзець, пакуль не з'едзе Пуцін!»

**Зміцер Панкавец**



**Чаго чакаюць ад візіту Пуціна ў Беларусі?**

## Класкоўскі: «Да нас едзе рэвізор»

Палітычны аглядальнік Аляксандр Класкоўскі лічыць: перамовы за кулісамі будуць цяжкімі. «Пуцін будзе прэсінгаваць, а Лукашэнка спрабаваць абысціся малой крывёй». Класкоўскі лічыць, што Пуцін будзе настойваць на выкананні «кожнага пункта падпісаных дамоваў».

«Калі казаць словамі расійскай класікі, то да нас едзе рэвізор. Пасля апошніх паездак Лукашэнкі ў Маскву тут была лёгкая эйфарыя ад атрымалых льгот і датацый. Пуцін можа збіць гэтую эйфарыю».

Класкоўскі акцэнтуе ўвагу, што ад хады перамоваў будзе залежыць і будучыня беларуска-еўрапейскіх адносінаў. Калі перамовы пройдуць няўдала, то зноў актывізуюцца кантакты з Брусэлем. Магчыма, выйдуць на волю палітвязні.

## Баранчык: «Асаблівага плана ў Пуціна няма»

Кіраўнік прарасейскага сайта Imperiya.by Юры Баранчык мяркуе, што «асаблівага плана ў Пуціна няма».

«Пуцін будзе патрабаваць ад Беларусі выканання ўсіх раней падпісаных абавязацельстваў. Прарывам магло б быць увядзенне расійскага рубля ці рашэнне пра прыватызацыю», — кажа лідар беларускіх еўразістаў.

Баранчык перакананы, што «праз год-два пры паляпшэнні макраэканамічнага клімату ў краіне і ўзрастанні золатавалютнага рэзерву» можна было б гаварыць пра ўвядзенне расійскага рубля, але не сёння.

«Наўрад ці бліжэйшым часам такса будуць вострыя канфлікты, паляпшэнне, калі і будзе, то вельмі мяккае».

**«Прынцыповая пазіцыя Еўрасаюза** зводзіцца і павінна зводзіцца да таго, што толькі вызваленне ўсіх палітзняволеных можа стаць пачаткам аднаўлення адносінаў паміж Мінскам і ЕС. Гэтая ўмова не выканааная», — адзначыў фінскі палітолаг Аркадзь Мошэс.

## «Абы не пагоршала»

Кіраўнік аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка не ведае, які план мае Пуцін у дачыненні Беларусі. «Ох, як добра гэта было б даведацца!» — смяецца ён і дадае, што Пуцін даўно не згадваў Беларусі.

«Дынаміка развіцця нармальная, тое, што робіцца ў эканоміцы, не можа не радаваць. Захавацца б гэтае, каб не пагоршала, — мяркуе Мусіенка. — На шчасце, адышлі ад розных «войнаў» з Расіяй, хаця рэцэдывы могуць здарацца».

«Ужо дваццаць гадоў можна пачуць, што Расія нас паглыне. Але нічога не змянілася. Дай Бог, каб і не змянялася. Канечне, на першых парах у Расіі існавалі шавіністычныя погляды аб аншлюсе Беларусі. Але цяпер мы дабіліся, што з намі размаўляюць, хай і не на роўных, чуюць нас. Гэта ўжо вялікая справа».

**Экспертаў апытваў ЗП**

**Фотафакт**

### Год Маўклівых акцый

1 чэрвеня спаўняецца год з моманту першай акцыі ў рамках «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі». Цэлае лета моладзь выходзіла на вуліцы гарадоў па серадах. Яны не высоўвалі палітычных лозунгаў, а проста пляскалі ў далоні ці елі марозіва. Аднак усе разумелі, што галоўным іхнім патрабаваннем з'яўляецца сыход Лукашэнкі і змена сістэмы.

Маўклівыя акцыі прыпалі на самы разгар эканамічнага крызісу, таму з імі звязвалі вялікія надзеі. Аднак рэпрэсіі супраць удзельнікаў (спецназ жорстка разганяў аматараў апладысментаў) прывялі да згасання акцый.

Адным з феноменаў «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» стаўся выхад на вуліцы не толькі ў Мінску, але і ў меншых гарадах. Геаграфія Маўклівых пратэстаў ахапіла больш за паўсотню населеных пунктаў.

**ЗП**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Сцісла**

**Рэформе — быць**

«Цяпер мы стаім на парозе правядзення маштабнай рэформы медыярынку», — заявіў кіраўнік Адміністрацыі Уладзімір Макей. Гаворка ідзе пра стварэнне двух холдынгаў на базе «Советской Белоруссіі» і «Звязды».

**АГП за байкот**

«У нас толькі дзве-тры асобы выказваюцца за тое, каб партыйныя кандыдаты ішлі да канца», — выказаўся старшыня АГП Анатоль Лябедзька пра восеньскія парламенцкія выбары. Лібералы выстаўляць кандыдатаў, якія будуць расказваць людзям пра магчымасць іншага жыцця, іншага ладу.

**З прывітаннем да Бердымухамедава**

Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч наведае Туркменістан. Гэта не першы ягоны сёлета візіт у экзатычныя краіны Азіі. Раней былі М'янма, В'етнам, ААЭ.

**Шманаюць на мяжы**

Цягам выходных на беларуска-літоўскай мяжы затрымлівалі прафсаюзнага лідара Генадзя Фядыніча і журналістку Марыну Коктыш. У Фядыніча канфіскавалі камп'ютар і грошы, а вось у Коктыш нічога з сабой не было.

**ЗП**

# «Усё адно выйду свабодным»

**Васіля Парфянкова** асудзілі на паўгода арышту.

Васіля Парфянкова абвінавацілі ў парушэнні ўмоваў прэвентыўнага нагляду. Бо некалькі разоў не адзначыўся ў міліцыі.

Парфянкоў — удзельнік Плошчы. Асуджаны на 4 гады зняволення, але вызвалены пасля прашэння аб памілаванні ў жніўні летась.

Працэс адбыўся ўсяго за паўдня ў Першамайскім судзе сталіцы. Суддзя Бандарэнка палічыў віну даказанай. Як пакаранне — паўгода арышту. То бок пакаранне ён будзе адбываць не ў турме, а ў СІЗА.

Пакаранне ўступіць у дзеянне праз дзесяць дзён. «Які б прысуд ні прагучаў, усё роўна я выйду з залы вольным чалавекам, а вы — як людзі, якія зрабілі сваю справу», — сказаў Парфянкоў у апошнім слове. На суд ён прыйшоў у майцы з Пагоняй, а на пытанні адказваў па-беларуску.

**ЗП**

# Барадач: Генерала Захаранку спалілі, а пасля спалілі і таго, хто яго спаліў

Палкоўнік Барадач зрабіў **сенсацыйныя заявы.**

Нагодай для анлайн-канферэнцыі на сайце радыё «Свабода» стала ягоная ініцыятыва па стварэнні Рады Нацыянальнага Адраджэння Беларусі. Аднак гутарка выйшла за межы акрэсленай тэмы.

Сярод іншага, палкоўнік Барадач расказаў пра вынікі ўласнага расследавання смерці генерала Захаранкі — першага міністра ўнутраных справаў пры Лукашэнку, які перайшоў у апазіцыю і таямнічым чынам знік у 1999. Гэта было першае гучнае знікненне ў Беларусі.

«Калі прыйшоў Лукашэнка, мы рэальна ацанілі сітуацыю і з генералам Захаранкам пачалі ствараць Саюз афіцэраў, — расказаў Барадач. — Безумоўна, за намі сачылі. Напярэдадні праведзення арганізацыйнага сходу генерал знік. Мы пачалі ўласнае расследаванне.

У выніку чаго было ўстаноўлена: па дарозе дадому група з пяці мужчын захапіла генерала Захаранку і павезла ў невядомым кірунку. Яго падвергнулі неймаверным катаванням з ужываннем фізічнага гвалту, а пазней і псіхатропных хімічных спецсродкаў. У яго выбівалі прызнанні аб падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту. Зразумеўшы, што ў судзе ён не пацвердзіць гэтых паказанняў, яго расстралялі».

Барадач сцвярджае, што ён «сустрэўся з начальнікам крэматорыя Паўночных могілак Статкевічам» і той прызнаўся, што «па загадзе людзей са спецслужбаў незаконна спаліў парэшткі».

«Другой сустрэчы з гэтым чалавекам не атрымалася. Ён згарэў жыўцом», — сцвярджае Барадач. «Ён закурыў і згарэў як свечка». Барадач лічыць, што яго проста залілі нейкім рэчывам, якое прывяло да самазапальвання.

Пасля гэтай гісторыі палкоўнік Барадач вырашыў застацца за мяжой, калі адчуў, што рыхтуецца яго пасадка.

Ён заявіў пра блізкасць сваіх пазіцый да Зянона Пазняка і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.

Барадач рэзка асудзіў тых дзеячаў апазіцыі, якія прадказваюць «сужыццё з рэжымам яшчэ 10–20 гадоў» і выступаюць за мірнае, негвалтоўнае, паступовае змаганне за перамены. На ягоную думку, кіраўнікі многіх партый «служаць рэжыму», як і многія журналісты.



Палкоўнік Барадач назваў «прастытуткамі» тых дысідэнтаў, якія пойдуць на парламенцкія выбары.

Ліберальнага палітолага Карбалевіча Барадач назваў «шаманам», а ў прыклад яму паставіў расійскага палітолага Суздальцава. Кампанію «Гавары праўду» Барадач назваў «структурай КДБ» і заявіў, што Някляеў можа выратаваць сваю рэпутацыю толькі ў тым выпадку, калі ён сыдзе з «Гавары праўду».

Палкоўнік Барадач расказаў і пра сваё асабістае жыццё. Ён жанаты, ягонаму сыну 23 гады, і ён вучыцца ва ўніверсітэце ў ЗША.

Універсітэт аплачвае яму вучобу. Пра Нямеччыну ён сказаў, што гэта «выдатная краіна, выдатныя, прыстойныя працавітыя людзі». «Пераможаныя жывуць як пераможцы, — сказаў Барадач пра немцаў, — бо ўлада выбіраецца народам і дае справаздачу за сваю працу перад людзьмі. Хачу дадому, хачу, каб мой народ паважаў сябе так, як гэта робяць немцы».

Ён заклікаў «Ляпісаў» напісаць песню пра «бунт». Сваім палітычным крэда палкоўнік назваў: «Дзе я — там перамога, адзіным перашкодай на шляху да яе з'яўляецца ўсяго толькі смерць».

«Кожны з нас павінен сказаць сабе пры канцы свайго жыцця: «Я адплаціў народу, чым моц моя змагла: зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла», — працытаваў ён Янку Купалу.

Аргкамітэт Рады Нацыянальнага Адраджэння Беларусі, з якога ў перспектыве можа быць сфармаваны ценявы ўрад, фактычна створаны, сказаў Барадач. Мемарандум будзе надрукаваны на гэтым тыдні, але імёны сяброў аргкамітэта не называюцца.

**Мікола Бугай**

# КДБ просіць грантаў на 9 мільёнаў даляраў

А Міністэрства ўнутраных справаў падало праекты на **ўтрыманне СІЗА**.

На сайце Міністэрства эканомікі надрукаваны спіс праектаў, якія дзяржаўныя ўстановы прадстаўляюць донарам у рамках праграмы Міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва на 2012–2016.

Усяго маецца 114 праектных прапановаў на суму 411,5 мільёна даляраў. Сярод іх маецца 13 прыярытэтных праектаў на суму 4 мільёны.

Сярод пададзеных маюцца і праекты ад Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Чэкісты просяць фінансаванне на «закуп і пастаўку тэхнічных сродкаў і абсталявання для забеспячэння дзейнасці ў сферы барацьбы з тэрарызмам, арганізацыі і правядзення контртэрарыстычных і іншых аперацый, аператыўнага правядзення спецыяльных і крыміналістычных даследаванняў у рамках дзяржаўнага рэагавання на акты тэрарызму». На гэты праект Камітэт просіць 6 мільёнаў даляраў.

Другі праект з КДБ накіраваны на «ўдасканаленне сістэм мераў па супрацьдзеянні ядзернаму і радыяцыйнаму тэрарызму на тэрыторыі Беларусі». Гэты праект разлічаны на 3,5 мільёна даляраў.

Тры праекты заявіла і Міністэрства ўнутраных справаў. 1. Процідзеянне карупцыі ў Беларусі. 2. Мінімізацыя міграцыйнай рызыкі, звязанай з прыгранічным рухам праз сумесныя межы, і арганізацыя эфектыўнага ўзаемадзеяння кампетэнтных органаў Беларусі і Польшчы па дадзенаму накірунку. 3. Садзеянне Беларусі ва ўдасканаленні механізмаў аказання дапамогі ў адаптацыі да жыцця ў грамадстве асобам, што вызваленыя з установаў крымінальна-выканаўчай сістэмы, дзейнасці спецыяльных установаў дасудовага ўтрымання, развіцця і павышэння эфектыўнасці выканання альтэрнатыўных пазбаўленню волі відаў пакарання.

Праекты заяўленыя на суму больш за 3,5 мільёна даляраў.

Што ж такое праграма Міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва? Адзін з відаў дапамогі, што бязвыплатна даецца Беларусі донарамі Міжнароднай тэхнічнай дапамогі (МТД) у мэтах аказання падтрымкі ў сацыяльных і эканамічных пераўтварэннях.

Донарамі МТД з'яўляюцца краіны Еўрапейскага саюза (Вялікабрытанія, Германія, Польшча і іншыя), ЗША, Канада, Японія, уласна Еўрасаюз, ААН і іншыя краіны і структуры.

Спецслужбы неаднаразова абвінавачвалі беларускую апазіцыю ў фінансаванні з Захаду, але самі не лічаць ганебным атрымаць дапамогу ад міжнародных донараў.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



**Алега Воўчака асудзілі на 9 сутак арышту**

Яго затрымалі 24 мая каля парку Дружбы народаў. Праваабаронца прагульваўся там разам з мастоўскім актывістам БХД Змітром Кухлеем. Да Воўчака падышлі чацвёра ў цывільным. Адзін з іх паказаў дакументы і папрасіў праехаць у Цэнтральны РУУС. Кухлея з сабой не ўзялі. У пастарунку Воўчака абвінавацілі ў нецэнзурнай лаянцы. Судзілі ўжо ў непрацоўны час. Вынік — 9 сутак арышту. Магчыма, затрыманне звязанае з ініцыятывай Уладзіміра Барадача аб стварэнні Рады Нацыянальнага Адраджэння. Воўчак — адзін з бліжэйшых паплечнікаў Барадача.

**ЗП**

# Лукашэнка: «Чаго вы вырашылі перайсці на адну мову?»

Кіраўнік мяркуе, што чалавек **мае права сам выбіраць**, на якой мове яму вучыцца — расійскай або беларускай.

«Навошта падымаць пытанні, калі яны даўно вырашаныя або спакойна вырашаюцца самі па сабе», — заявіў Лукашэнка, наведваючы Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт.

Словы былі сказаныя пасля таго, як у час наведвання бібліятэкі гістарычнага факультэта ВНУ ён убачыў падручнікі па гісторыі на расейскай мове.

«Чаго вы вырашылі перайсці на адну мову?» — спытаў Лукашэнка ў чыноўнікаў, якія суправаджалі яго.

«Навошта лезці ў гэтыя пытанні? Хоча Косінец [старшыня Віцебскага аблвыканкама] вывучаць на беларускай мове гісторыю сярэдніх вякоў — хай вывучае. Хоча Радзькоў [першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта] вывучаць на расійскай мове — хай вывучае», — сказаў ён.

Лукашэнка адзначыў, што ў свой час ён скончыў расейскамоўную сярэднюю школу. «Але я нармальна здаваў іспыты і на беларускай мове», — сказаў Лукашэнка.

У кантэксце апошніх падзей гэта азначае забарону пераводу навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускую мову — з такой ініцыятывай быў выступіў міністр Маскевіч. Раней іх выкладалі на роднай мове ва ўсіх сярэдніх школах, але ў часе міністравання Радзькова выкладанне пераявлі на «любую мову на жаданні бацькоў», што маскавала пераход на расейскую ў рэальнасці.

**Сяргей Гезгала**

# Гіпермаркет ці рынак? Дзе выгадней купляць садавіну і гародніну?

Пачынаецца лета — сезон вітамінаў. Але дзе выгадней рабіць пакупкі — на традыцыйным рынку, дзе могуць абважыць, але можна і пагандлявацца, ці ў гіпермаркеце з фіксаванымі цэнамі?

Карэспандэнт «НН» зазірнуў у нядзелю — базарны дзень — на адзін з найбуйнейшых у сталіцы Камароўскі рынак і ў гіпермаркет «Гіпа» ў спальным раёне горада. У гэтай сетцы, згодна з аб'явамі ў гандлёвай зале, на ўсю садавіну і гародніну ўстаноўленая гандлёвая нацэнка 0%.

На большасць прадуктаў цэны адрозніваюцца неістотна — на 1000—2000 рублёў. У гіпермаркет варта ехаць па імпартныя грушы і памідоры, а на рынак — па айчынныя яблыкі і агуркі. Але на рынку і нашмат большы выбар. Напрыклад, клубніцаў і чарэшняў у гіпермаркеце ўвечары выходнага дня ўвогуле не засталося, а на Камароўцы яны прадаваліся на кожным другім прылаўку.

Ягор Марціновіч



| | Камароўка, «базарны дзень» | Гіпермаркет |
|---|---|---|
| Яблыкі | 8 000 | 11 500 |
| Памідоры | 20 000 | 17 000 |
| Агуркі | 6 000 | 9 000 |
| Клубніцы | 45 000 | няма |
| Чарэшні | 50 000 | няма |
| Бананы | 11 500 | 11 000 |
| Кабачкі | 12 000 | 21 000 |
| Вінаград | 33 000 | 30 000 |
| Перац | 35 000 | 33 000 |
| Грушы | 20 000 | 16 000 |
| Апельсіны | 12 000 | 11 500 |



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Закупныя цэны**

Цэны на прылаўках моцна розняцца ад тых, па якіх прадукт імпартуецца ў краіну. Белстат падлічыў сярэдні кошт імпартаванай садавіны за студзень-сакавік 2012 года. Да яго дадаюцца падаткі, выдаткі на транспартаванне ўнутры краіны, гандлёвая нацэнка і г.д. Згодна з падлікамі, яблыкі завозіліся ў нашу краіну па (!) 3700 рублёў, грушы — па 5500 рублёў. За апельсіны імпарцёры плацілі 6260 рублёў, а за бананы — 7600 рублёў.

# ЗША: Беларускія банкі «адмываюць» грошы

Дробны «Крэдэксбанк» за два месяцы перавёў афшорным кампаніям **мільярд далараў**.

Казначэйства ЗША падазрае беларускі «Крэдэксбанк» у адмыванні грошай. Увагу амерыканцаў прыцягнуў той факт, што на працягу двух месяцаў 2010 года на рахункі некалькіх сотняў фірм, зарэгістраваных у розных краінах, было пераведзена каля $1 мільярда. Пры гэтым крыніца паступлення грошай так і не была знойдзена, а ўласныя актывы банка не перавышалі $20 мільёнаў. Акрамя таго, ЗША сумняюцца ў празрыстасці ўладальнікаў банка, інвестыцыйнай кампаніі Vicpart Holding SA са Швейцарыі. Ніводнага іншага актыва, апроч банка ў Беларусі, загадкавыя швейцарцы не маюць.

Цяпер «Крэдэксбанк» трапіў на два месяцы ў «чорны спіс» ненадзейных фінансавых арганізацый. Уключэнне ў гэты спіс дае права міністру фінансаў ЗША пасля дадатковых праверак запатрабаваць ад Белага дома ўвядзення санкцый. Санкцыі супраць іншага беларускага банка, «Трастбанка», былі ўведзеныя яшчэ ў 2004 годзе, за адмыванне грошай Садама Хусэйна.

«Крэдэксбанк» выступіў у адказ з афіцыйнай заявай, у якой абверг прэтэнзіі амерыканцаў. У якасці аргументацыі банкіры прывялі той факт, што Нацбанк і Дзяржкантроль, правяраючы банк у 2008—2011 гадах, «не прымянялі меры ўздзеяння за парушэнні заканадаўства ў вобласці прадухілення легалізацыі даходаў, атрыманых злачынным шляхам». Што да пераведзеных грошай, банк падаў лічбы за папярэдні год — з 1 мая 2011 года аб'ём плацяжоў склаў каля $225 мільёнаў. Пры гэтым «Крэдэксбанк» так і не сказаў ні слова па сутнасці прэтэнзій амерыканцаў — што за мільярд быў пераведзены за два месяцы 2010 года?

Тым часам Нацбанк заявіў, што ў найбліжэйшы час правядзе пазапланавую праверку «Крэдэксбанка».

ЯМ

**Што такое «Крэдэксбанк»?**

«Паўночны Інвестыцыйны банк» быў зарэгістраваны ў СЭЗ «Мінск» у 2001. У 2007 з прыходам новага інвестара назва была зменена на «Крэдэксбанк». Цяпер 98,8% акцый валодае швейцарская кампанія Vicpart Holdings SA. Старшыня назіральнай рады — армянін Саркіс Сімаваран. Капітал банка складае каля 20 мільёнаў еўра.

# У Мінску закрываюцца крамы «Містэрыя гуку»

Уладальнік сеткі: «Для горада нашых крамаў аказалася **зашмат**».

У Мінску закрываюцца музычныя крамы сеткі «Містэрыя гуку». У яе склад уваходзілі адна брэсцкая крама, а таксама чатыры ў сталіцы — у падземным пераходзе каля ГУМа, у гандлёвым цэнтры «Рыга», каля ЦУМа і на Нямізе. Дзве апошнія ўжо не працуюць.

Пра іх закрыццё «Нашай Ніве» расказаў заснавальнік сеткі Сяргей Ясючэня: «Аказалася, што для горада нашых крамаў

## Сусветныя працэсы «адміранне» кампактаў дайшлі і да Беларусі

аказалася зашмат — цяпер іх трэба меней. Закрыліся тыя, якія прыносілі меншы прыбытак. На Нямізе мы закрыліся, бо літаральна праз 500–600 метраў ёсць «Містэрыя» ля ГУМа. А ад плошчы Коласа недалёка да ГЦ «Рыга» — а там вялікая нашая крама, — мы перанакіроўваем купцоў туды».

Бізнесмен кажа, што сусветныя працэсы «адміранне» кампакт-дыскаў і крызісу музычнага продажу дайшлі і да Беларусі: «Калі раней ад дыскаў можна было атрымліваць звышпрыбыткі, то цяпер гаспадары крамаў мусяць думаць, як максімальна выкарыстоўваць кожны метр, бо прыбытак не дазваляе здымаць вялікія і прыгожыя памяшканні. Што тычыцца агульнай сітуацыі, то хутка Беларусь пяройдзе на «еўрапейскі» фармат — маленькія кавярні, маленькія рэстарацыі і маленькія музычныя крамы».

Які лёс чакае гандлёвыя памяшканні ў цэнтры горада? Каля ЦУМа 26 мая адбылося адкрыццё камп'ютарнай крамы «Сільверада» (Silverado). Гэта сетка, прадстаўленая ў Гомелі, Бабруйску, Полацку, Наваполацку і Салігорску.

ЯМ, ЮУ

**«Містэрыя гуку»** — самая вядомая беларуская сетка музычных крамаў, заснаваная бізнэсоўцам Сяргеем Ясючэнем. Сярод яго актываў застаецца гуказапісвальная кампанія West Records. Суўладальнік «Містэрыі гуку» Аляксандр Шлык загінуў у 2006 падчас тэракта ў Егіпце, дзе ён адпачываў.

# Мінскае таксі патаннее да 3000 рублёў?

Пяць службаў гатовыя аб'ядназца для барацьбы з **дэмпінгуючым «Алмазам»**.

Рынак таксі ў Мінску стаіць на мяжы глабальных пераўтварэнняў. З пачатку чэрвеня ў большасці таксі сталіцы можа быць уведзены «адзіны» тарыф — 3000 рублёў за кіламетр. Дамову аб каардынацыі дзеянняў заключылі службы таксі 107, 135, 152, 155 і 158. Цяпер кошт праезду ў іх складае 3300–3600 рублёў.

Кіраўніцтва службаў таксі нібыта гатовае зменшыць тарыфы да ўзроўню аднаго з найбуйнейшых гульцоў, таксі «Алмаз» (7788). Па меркаванні іншых удзельнікаў рынку, гэтае таксі з тарыфам 3100 рублёў дэмпінгуе, працуючы фактычна ў страту, каб знішчыць канкурэнтаў.

Таксісты пакуль вырашаюць, ці змірыцца з прапанаваным ім змяншэннем тарыфаў, ці байкатаваць прынятае рашэнне і пратэставаць супраць яго прымянення. «Нам далі зразумець, што, калі ў адказ на нашае паніжэнне «Алмаз» знізіць тарыф да 2500 рублёў, усе службы таксама пяройдуць на гэты ўзровень, — кажуць кіроўцы. — А гэта будзе фактычна руйнаванне. Нават у абласных цэнтрах тарыфы большыя, чым у Мінску».

ЯМ

## Сціслa:

### Сярэдні заробак у Беларусі перавысіў $400

Паводле падлікаў Белстата, налічаны сярэдні заробак у Беларусі ў красавіку склаў 3 253 000 рублёў. Па сярэднім курсе красавіка гэта $ 404. За месяц беларусы пабагацелі на 94 тысячы рублёў. Пры гэтым, напрыклад, сярэдні заробак дактароў дасягнуў 4,73 мільёна, а выкладчыкаў ВНУ — 4,39 мільёна рублёў.

### БелАЗ зробіць найбольшы самазвал у свеце

У сакавіку 2013 года прадпрыемства выпусціць машыну грузападымальнасцю 450 тонаў. Ён будзе нашпігаваны ўсімі магчымымі прыладамі аўтаматызацыі працы аператара.

### У Беларусі створаны ювелірны холдынг

Цяпер кампаніі «Белювелірганддаль», «Белгран» і іх «кіраўнік», гомельскі «Крышталь», будуць мець супольную гандлёвую сетку і праводзіць супольную тэхнічную, закупную і збытавую прадукцыю.

### Гомельскі гіпермаркет прадаўся «Еўраопту»

Расійская карпарацыя «Грын» прадала гомельскі гіпермаркет «Лінія» кампаніі «Еўрагандаль», які валодае крамамі «Еўраопт». «Лінія» адкрылася ў 2010 годзе, у яе будаўніцтва было інвеставана $16,5 мільёна.

### Прадпрымальнікі змірыліся з новым коштам арэнды

З 1 красавіка памер арэнднай платы на рынках і ў гандлёвых цэнтрах Мінска павялічыўся ў сярэднім больш чым у два разы. Але нязгодных працаваць на новых умовах прадпрымальнікаў набралася толькі 53 чалавекі — каля 0,01% ад усёй іх колькасці. Цяпер квадратны метр для продажу прадуктаў каштуе ў сярэднім 19 еўра (было — 8), а для прамтавараў — 25 еўра (было 14).

ЯМ

# Сабор Святога Стафана замест «дома з вушамі»

У год 1150-годдзя **Полацк** аднаўляе гістарычнае аблічча.

Гэта падавалася фантастыкай чвэрць стагоддзя таму. У Полацку будуць адноўленыя Пакроўская царква ды сабор Узвышэння Святога Крыжа, ад якіх ляжалі толькі гурбы друзу? Запрацуюць уніяцкі манастыр і стараверская святыня? Але Полацк вярнуўся з легенды, дзякуючы дзейнасці такіх асоб, як Уладзімір Арлоў, Лера Сом, Вінцэсь Мудроў, Алесь Аркуш, Сяржук Цімохаў, што яшчэ ў 1980-я здолелі ўдыхнуць жыццё ў вобразы здвёншчыны. Іх мары і словы сёння супалі з амбіцыямі ўладаў Полацка і Віцебшчыны. Праўда, амаль ніхто з тых адраджэнцаў не запрошаны на ўрачыстасці з нагоды 1150-годдзя Полацка...

Да юбілею, які святкуецца сёлета, зробленыя вялікія работы. Якімі помнікамі ўзбагаціўся Полацк?

### «Дом Пятра І», у якім цар можа і быў

Адрэстаўраваны «дом Пятра І» — мураванка на былой Ніжне-Пакроўскай вуліцы, пабудаванай у 1694 побач з Богаяўленскім манастыром. Легенду пра тое, што менавіта ў тым дамку спыняўся расейскі цар, выдумалі ў савецкі час, каб уратаваць камяніцу ад разбурэння. Пётр І начаваў у манастыры. Падчас рэстаўрацыі была зроблена копія старасвецкіх разьблёных дзвярэй, а арыгінальныя перадалі ў музей, што тамсама і месціцца.

### 27-метровая езуіцкая студня

Адноўленыя і фасады будынкаў былога езуіцкага калегіума (сёння там універсітэт). Хоць да скančэння рэстаўрацыі гэтага найважнейшага аб'екта яшчэ далёка. Да юбілею археолагі раскапалі на падворку кляштарную студню, ведамую па старадаўніх выявах. Зрабілі яе расчыстку на 27 (з дзевяціпавярховы гмах!) метраў. На самым дне, сярод іншых археалагічных цікавостак, былі выяўленыя арыгінальныя, яшчэ езуіцкіх часоў, краты, на якія мацаваліся прыстасаванні для пад'ёму вады.

### Мемарыял ахвярам 1812-га

Добраўпарадкаваная тэрыторыя вакол мемарыяла-абеліска ў памяць вайны 1812 (створаны паводле праекта архітэктара Антоніа Адаміні ў 1850, ён быў знішчаны ў 1932). Хоць аднаўленне гэтага помніка імперскага часу выклікае неадназначную рэакцыю, архітэктар Вадзім Глінік навуковы кіраўнік аб'екта «Гістарычны цэнтр Полацка», лічыць, што аднаўленне абеліска — яшчэ адзін крок да дэсаветызацыі грамадства. Бо манумент быў пастаўлены *усім* ваярам і ахвярам 1812 года. Дый створаны ён быў на найвышэйшым мастацкім узроўні, а сёння, дакладна ўзноўлены, упрыгожыў старасвецкую плошчу, зрабіўся яе дамінантай (раней дамінаваў помнік савецкім воінам — СХ).

### На чарзе — два саборы

У генплан Полацка ўнесенае аднаўленне сабора Святога Стафана. Дзеля гэтага давядзецца зруйнаваць савецкі дзевяціпавярховік, званы ў народзе «дом з вушамі». У бліжэйшы час археолагі расчысцяць і адкрыюць для агляду частку муроў сабора, што знаходзіцца пад газонам на плошчы.

У Генеральны план развіцця Полацка закладзены і праект узнаўлення касцёла святога Дамініка з кляштарам. Справу лічаць вырашанай. У ім збіраюцца змясціць тэатр, будаўніцтва якога было запланавана колісь.

Аднаўляць зруйнаваны за царом касцёл Святога Антонія, што быў пры ацалелым дасёння кляштары францішканаў, планаў пакуль няма. Але, як падкрэсліваў шматкроць Вадзім Глінік, неяк узнавіць абрыс касцёла варта — ён надаў бы выразнасць панараме старажытнага места над Дзвіною. То бок, і наступнаму пакаленню архітэктараў і рэстаўратаў, тэарэтыкам і практыкам, тут хопіць працы...

### Палата стане паўнаводнай

Вырашанае і пытанне ўзнаўлення гмаху базыльянскага кляштара ля Сафіі. Гэтаму паспрыяла рашэнне мясцовых уладаў і асабіста старшыні Полацкага гарвыканкама Аляксандра Пазняка актыўна развіваць турызм. Рэчышча Палаты зробяць прыдатным для чаўноў. Група экспертаў на чале з Вадзімам Глінікам і наваполацкая група «Мастаксэрвіс» на чале з Ігарам Рудэнем распрацавалі канцэпцыю рэгенерацыі стараўнягa горада. Іх праекты зацверджаныя на дзяржаўным узроўні гэтымі днямі. Гэта — расчыстка і добраўпарадкаванне Палаты, з аднаўленнем ставоў, пад'ёмам узроўню вады, стварэннем набярэжных, узнаўленнем гістарычнай інфраструктуры ад вусця да манастыра: з млынамі, мастамі і капліцамі, лакалізацыяй гістарычных могілак. Гэта — даваршэнне рэстаўрацыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра і прылеглай да яго тэрыторыі. Гэта — упарадкаванне Верхняга замка... Некаторыя работы ўжо вядуцца. У выпадку Полацка мы маем шчаслівы выпадак, калі памкненні рэстаўратараў і ўладаў супалі.

### Увага — левы бераг!

На жаль, подых аднаўлення пакуль не адчуваецца на левым беразе Дзвіны. Па-за ўвагаю ў юбілейны год застанецца і кляштар бернардынаў з руінамі касцёла Маці Божай Марыі Нябеснай, і тэрыторыя колішняга Бельчыцкага манастыра... Але, бадай, ненадоўга. Гледзячы на тое, наколькі змяніўся старажытны Полацк за апошнюю чвэрць стагоддзя, ужо не падаецца такім фантастычным і яго ўваскрашэнне поўнае... Як і ўсяго нашага краю.

**Сяргей Харэўскі**



PHOTO BY MEDIA.NET

## Навагрудскія ўлады працягваюць выразаць лесапалосы

Пасля заяваў Лукашэнкі знішчэнне **прыпынілі, а пасля аднавілі**.

Карэспандэнт «Нашай Нівы» быў сведкам такіх працаў на мяжы Карэліцкага і Навагрудскага раёнаў.

Сотні метраў спілаваных дрэваў ляжаць па левым баку ад дарогі за вёскай Ваўковічы. Каля кіламетра жывой агароджы спілавалі непасрэдна на пад'ездзе да горада за вёскай Сялец.

Напрыканцы сакавіка «Наша Ніва» пісала пра высечку ў Навагрудскім раёне. Пасля гэтага на высечку лесапалосаў адрэагаваў Аляксандр Лукашэнка. «Тое, што раней высаджвалі спецыяльна як ахоўныя палосы, сёння пачынаюць выдзіраць, рэзаць, пілаваць і гэтак далей. Добра, калі дзесьці гэта трэба зрабіць. Але навошта гэта рабіць масава?» — заявіў ён.

Супрацоўнікі адной з бюджэтных арганізацый Навагрудчыны расказалі «НН», што раённае кіраўніцтва размяркоўвае заданні па высечцы лесапалосаў паміж арганізацыямі: ДРБУ гэтулькі сотняў метраў палосаў, сельгаскааператывам — гэтулькі і г.д.

Мясцовыя кажуць, што пасля заяваў Лукашэнкі знішчэнне лесапалосаў прыпынілі, але праз колькі дзён высечку аднавілі.

**Сямён Печанко**

## Як на станцыі «Беларусь» ствараюць небяспеку для пасажыраў

**Перагароджаны грузавым цягніком** шлях да электрычкі тут не рэдкасць.

Раніца, Заслаўе. На станцыі «Беларусь» чакае адпраўлення электрычка. Застаюцца лічаныя хвіліны, але вось незадача — шляхі да платформы перагароджаныя грузавым цягніком, які стаіць на першай ад вакзала каляі. Каб патрапіць да электрычкі, трэба бегчы ўздоўж грузавога сотню-дзве метраў. Многія пасажыры, рызыкуючы здароўем, а то і жыццём, перабіраюцца да электрычкі па рэйках. Асаблівасць станцыі «Беларусь» у тым, што калеі ў бок Маладзечна плаўна выгінаюцца. Калі на першай каляі стаіць цягнік, іншыя цягнікі з гэтага накірунку можна ўбачыць ці не ў апошні момант. Найперш гэта датычыць перахода, што знаходзіцца акурат насупраць выхаду з вакзала. Часам людзі перабягаюць рэйкі непасрэдна ў момант прыбыцця электрычкі, спыніць якую імгненна, як вядома, немагчыма.

Такія сітуацыі здараюцца ў Заслаўі досыць часта. Прычыны могуць быць розныя, у тым ліку тэхнічныя. Але ў любым выпадку відавочна, што такім чынам ствараецца рэальная небяспека для пасажыраў.

**СП**



СЯМЁН ПЕЧАНКО

## Сцісла

### Адсудзіў у life:) 350 тысяч рублёў

Гамяльчук набыў у аператара планшэт, але той апынуўся з дэфектамі. Рамонт цягнуўся ў разы даўжэй, чым прадугледжвае закон, і не прынёс жаданага выніку. Пакупнік звярнуўся ў суд. Замест заяўленых 2 мільёнаў кампенсацыі атрымаў 350 тысяч.

### Інтэрнэт-тролю пагражаюць пракуратурай

Адзін з наведнікаў папулярнага блога Гродна s13 пагражае звярнуцца ў пракуратуру, калі іншы чытач сайта не перастане пакідаць абразлівыя каментары. Часцей за ўсё падобныя каментары ён пакідае пад артыкуламі пра беларускую мову і культуру ці проста пад беларускамоўнымі тэкстамі. Неабыякавы чытач прапануе іншым не заставацца ўбаку.

**СП**

# Севярынец: Сілавікі расслабляюцца ад беспакаранасці



Юнакі ахвяруюць свабодай, уздымаючы нацыянальныя сцягі.

PHOTO:BYMEDIA.NET

Актывістаў-маладафронтаўцаў **працягваюць саджаць** за краты нон-стопам.

За апошні тыдзень суддзя Таццяна Моталь адправіла трох маладафронтаўцаў — Уладзіміра Яроменку, Змітра Крамянецкага, Рамана Васільева — на чарговыя адміністрацыйныя арышты. Усіх трох прывозілі на суды непасрэдна з-за кратаў, дзе тыя адбывалі папярэднія «суткі». За тыдзень да гэтага маладафронтаўца Міхася Мускага з сутак адправілі служыць у войска.

Сітуацыю вакол арыштаў пракаментаваў адзін з заснавальнікаў «МФ», палітвязень Павел Севярынец.

**«Наша Ніва»:У чым значэнне гэтых «канвеерных судоў»?**

**Павел Севярынец:** Па-першае, у «Маладым Фронце» вырасла новае пакаленне. Гэта — Крамянецкі, Мускі, Пратасевіч. Яны гатовы ахвяравацца, вывешваць сцягі, адкрыта выходзіць дэманстраваць. І, безумоўна, улады хочуць збіць гэтую хвалю. Тым больш, што быццам усю апазіцыю «прыгладзілі», а тут на табе — маладыя актыўныя хлопцы.

Па-другое, чакаецца прыезд Пуціна. Татальная зачыстка ўключае ў сябе нейтралізацыю ўсіх больш ці менш адважна настроеных маладых людзей. «Маладога Фронту» рэжым традыцыйна баіцца. І правільна робіць.

Хлопцаў спрабуюць і ў войска запхаць. Могуць і крымінальную справу сфабрыкаваць. Не выключана, што і вярбоўка ідзе, пакуль яны на сутках. Да Яроменкі дакладна прыходзіў чэкіст. Думаю, супрацоўнікі КДБ спрабуюць слабыя месцы знайсці, перακанаць нeяк. Калі я апошні раз быў на Акрэсціна, зразумеў, што справа са «стукам», як кажуць, пастаўлена значна больш шырока, чым гадоў дзесяць таму — у разгар маёй маладафронтаўскай дзейнасці.

**«НН»: Якім чынам павінна праяўляцца гэтая салідарнасць?**

**ПС:** Для пачатку дастаткова сабрацца і прыняць заявы, і пачаць метадычна абыходзіць усе ўстановы, адказныя за гвалт супраць маладых людзей: пракуратуры, КДБ, МУС... Чым больш будзем паказваць, колькі людзей супраць незаконных дзеянняў, тым лепш. Бо яны расслабляюцца ад беспакаранасці. Відаць, як норма ўспрымаецца, што хлопцаў прапускаюць праз гэты «суткавы канвеер».

Трэба сабрацца і ўсім разам прыехаць 16 чэрвеня на прысягу да Міхася Мускага. Падтрымаць іх сем'і — зрабіць нейкі ўнёсак, грашовы пераввод, каб людзі не пачуваліся кінутымі. Як бацькі глядзяць на хлопцаў: маўляў, вы прыносіце праблемы, вы лезіце куды не трэба замест таго, каб вучыцца. Хлопцы адстойваюць гонар Беларусі, а грамадства абыякава маўчыць.

**«НН»: Што Вы перадалі б тым хлопцам, якія адбываюць суткі, і тым людзям, якім давядзецца трапіць пад суды?**

**ПС:** Трэба памятаць, што ўсё ў руках Божых. Суткі, якія дае рэжым, трэба выкарыстаць для малітвы, самаадукацыі, для аналізу дзейнасці. Гэта час, які быў досыць плённым у нашага пакалення маладафронтаўцаў. У рэшце рэшт памятаць: Верым! Можам! Пераможам! Трэба размаўляць з няшчаснымі людзьмі, якія туды трапілі, і з міліцыянтамі. Размаўляць і пераконваць.

**Гутарыў**
**Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

### Блогер Ліпковіч судзіцца з прапагандыстам

Прычынай стаўся артыкул у газеце «Во славу Родіны» начальніка ўпраўлення інфармацыі галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Уладзіміра Макарава «Ліпковіч: клінічны выпадак піраманіі — ці?..».

### Каваленка спыніў галадоўку

Пра тое, што віцебскі актывіст КХП-БНФ спыніў галадоўку, стала вядома ад адваката. Ён мае намер змагацца іншымі метадамі. Сяргей знаходзіцца ў каранціне магілёўскай турмы. Яго жонка Алена рыхтуе наглядную скаргу ў Віцебскі абласны суд.

### Пракуратура правярае «Белсат»

У бліжэйшы час тэлеканал збіраецца падаваць дакументы на акрэдытацыю. Прадстаўнікі «Белсата» не выключаюць, што такім чынам пачаўся пошук фармальных прычын, каб адмовіць у акрэдытацыі. Не выключаецца, што вынікам пракурорскай праверкі можа стаць адміністрацыйная адказнасць за працу без дазволу.

### Затрымалі на сустрэчы з Лепіным

Каля стадыёна «Трактар» у Мінску 27 мая супрацоўнікі міліцыі затрымалі групу моладзі, якая сустракалася з доктарам тэхнічных навук, спецыялістам па праблемах атамнай энергетыкі Георгіем Лепіным. 21 чалавек трапіў у пастарунак. Да некаторых ужывалі фізічны гвалт, пагражалі скласці пратаколы і пасадзіць «на суткі». Усіх пасля працэдуры дактыласкапіі адпусцілі.

**КМ**

# Пакаленне пераможцаў



За 25 гадоў мы дасягнулі гіганцкага прагрэсу ў нацыябудаўніцтве. Піша **Сяргей Харэўскі.**

Я нарадзіўся ў Мінску, дзе пра беларускасць вонкава нічога не нагадвала, апроч шыльды «Белсаюздрук» ды пары старых назваў, кшталту «Шпалерная» ды «Гандлёвая». У маіх бацькоў не было выбару, у садок ці школу з якой моваю навучання мяне аддаваць. Такога пытання нават не паўставала. Усё было па-расейску. Гэта маё пакаленне раптоўна вычула паклікание, гуртуючыся ў «Майстроўні» ды «Талацэ». Маё пакаленне пачало голасна, насуперак усяму, гаварыць у сталіцы па-свойму.

Мы працярэблівалі самі той шлях, пра існаванне якога нічога не ведалі нашыя бацькі. Юнакі з майго пакалення праседжвалі вечары ў цішы беларускіх аддзелаў бібліятэк, бясконца гартаючы каталожныя карткі, шукаючы самых сябе. Мы аб'язджалі, абыходзілі, абплывалі ўсю Беларусь, ад Сапоцкіна да Камарына. І яна, нашая краіна, уваходзіла назаўжды, урастала ў нас, з калодзежнай вадою і дарожным пылам.

Мы імкнуліся слухаць старасвецкія спевы і людскія гутаркі, настройваючы свой слых і голас. Мы развучвалі самыя што ні ёсць народныя песні. І тыя матывы дасёння гучаць ува мне.

Мы ездзілі паслухаць адзінага на ўсю Беларусь святара, які прамаўляў па-беларуску, — айца Уладыслава Чарняўскага, у Вішнева.

Мы падстаўлялі свае юначыя плечы на талоках у музеях, дапамагалі археолагам на раскопках і рэстаўратарам на будоўлях. Мы стаялі ля Курапацкіх магілаў і перабіралі рукамі чорную-чорную зямлю на замчышчах.

Мы грукаліся ў гарадскія кватэры, каб пераконваць людзей у патрэбе беларускіх школаў. Мы ладзілі таемныя бяседы ў студэнцкіх інтэрнатах і мастакоўскіх майстэрнях. Мы стваралі падпольныя гурткі і нефармальныя сябрыны. Мы рабілі графіці ў пераходах праспектаў. Мы гукалі Вясну. І сёння я не наракаю.

Здзейснілася багата маіх мараў: краіна стала незалежнай, мова атрымала дзяржаўны статус, загучала ў школах і храмах сталіцы. Я не наракаю, бо і ў тым, што сёння мае Беларусь, ёсць і каліва майго ўнёску.

Шмат чаму не наканавана было здзейсніцца. Але я не наракаю, бо мераю ад... абсалютнага нуля! Той тузін садкоў ды школаў у Мінску, што маем — гэта недараўнальна больш, чым было! Бо не было анічога... Усяго 25 гадоў таму не было анічога!

Жыццё не казіно, каб у скрусе заломваць рукі, наракаючы на рулетку.

Жыццё — гэта Дом, праект і рэалізацыю якога людзі вядуць (або не) усё жыццё. Я, адвучыўшыся ў Пецярбургу і Варшаве, напрацаваўшыся ў Вільні, нікуды з'язджаць больш з Беларусі не збіраюся. Ні пры якіх абставінах. Бо гэта мой Дом, у праектаванні і ў стварэнні якога я ўсё жыццё бяру чынны ўдзел. Што мы тут маем, то мы зарабілі. І працы тут яшчэ багата.

Я не страціў нічога тут. Апроч ілюзіяў. Мне, як і майму пакаленню, здавалася, што можна пераканаць людзей, каб цікавіліся лёсам прадзедаў, шанавалі мову бацькоўскага дзяцінства. І, акрыяныя, гэтыя людзі зробяць выбар на карысць свайго, не чужога. Здавалася, дайце, дайце нам толькі магчымасць гэтым людзям усё патлумачыць!

Яшчэ адной ілюзіяй была Вера. Здавалася, настане сапраўдная свабода сумлення, уздымуцца святыні з руінаў — і наш беларускі свет запраменіць... За чвэрць стагоддзя рэлігійнае свабоды нічога не змянілася ў беларусах сутнаснага. Беларусы не здолелі паверыць. І толькі цяпер, стоячы над безданню Курапатаў і Катыняў, мы разумеем вусцішную сутнасць таго, што адбылося. Чытаючы кнігі Тадэвуша Корзана ці Уладзіміра Глыбіннага, мы спасцігаем маштаб і глыбіню нашае нацыянальнае драмы. І шмат што ўжо не зменіш... А таму я не адступлю ні на крок! Бо наперадзе яшчэ доўгая, доўгая дарога. І на гэтай дарозе я ўжо не самотны, як чвэрць стагоддзя таму.

Сёння я маю гонар паўсюдна гаварыць па-беларуску з узнятай галавою і вычуваць узаемнасць і прыязнасць невядомых мне людзей. Сёння ў мяне тысячы аднадумцаў і паплечнікаў. Сёння наша мова гучыць у сотнях храмаў, і я магу пагутарыць на любыя тэмы па-свойму нават з рабінам і мулою. Сёння ў нас ёсць незалежная прастора ў сеціве, і расце яна несупынна. Сёння мы маем гэтулькі тэкстаў, што на ўсё жыццё чытанкі хопіць, з гакам! Сёння на паліцах стаяць кнігі, напісаныя і мною. Сёння ў мяне расце дачушка, якая дзівіць мяне сваёй чысцюткай мовай. І ў яе ёсць добрыя сябрукі і сяброўкі. Таму беларушчына не скончыцца на мне, то пэўна...

# Ад войска да інтэрнэт-рэвалюцыі

У Канах паказалі фільм **Viva Bel@rus!**


АГНЕШКА КАКОЎСКА / WFDF

**Сяржанты трэніруюць «салаг»: на пляцы ў поўным рыштунку.**

Мяркуючы па трэйлеры, які стваральнікі фільма выклалі ў інтэрнэт, Viva Bel@rus зняты ў галівудскай традыцыі: у фільме шмат канфліктных момантаў, яскравая сцэна брутальнага разгону Плошчы-2010. Фільм здымаўся ў Польшчы цягам лістапада і снежня 2011, а трэйлер стужкі ўпершыню быў прадстаўлены на Берлінскім кінафестывалі.

Сюжэт фільма наступны: малады рок-музыка Мірон Захарка трапляе ў вой-ска, адкуль пачынае весці ананімны блог, у якім расказвае пра дзедаўшчыну і ўмовы жыцця ў войску. Блог перарастае ў супрацьстаянне рэжыму, а галоўны герой вырастае ў лідара моладзі.

Адным з прататыпаў галоўнага героя стаў Франак Вячорка, а тэксты ягоных армейскіх нататак — адной з асноваў сюжэта. Мяркуючы па ўсім, у фільме, апроч Плошчы-2010, таксама адлюстраваны і падзеі мінулага лета, а менавіта дзейнасць «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» — менавіта праз блог Захаркі распачынаецца «інтэрнэт-супраціў».

Фільм Кшыштафа Лукашэвіча паказалі на кінакірмашы Канскага кінафестывалю, каб зацікавіць дыстрыб'ютараў. Пакуль невядома, дзе адбудзецца наступны паказ фільма і ці плануюцца неафіцыйныя паказы ў Беларусі. Далейшы лёс фільма вырашае кампанія-стваральнік.

У галоўнай ролі зняўся рэпер Зміцер Vinsent Папко, а таксама ў фільме задзейнічаны шэраг тэатральных і кінаакцёраў — Аляксандр Малчанаў, Раман Падаляка і Анатоль Кот. У галоўнай жаночай ролі знялася польская актрыса Караліна Грушка.

**Юрась Ускоў**

**Фотафакт**


auto.onliner.by

**У Раўбічах пад Мінскам прайшоў злёт аматараў кабрыялетаў. Спачатку мерапрыемства планавалі правесці ў сталіцы, праграма была шырокай. Але арганізатарам не ўдалося атрымаць дазвол, і ўсё абмежавалася выездам на прыроду.**

# 20-гадовая беларуская раварыстка загінула ў Туле

**Паліна Жук** атрымала цяжкую траўму галавы падчас спаборніцтваў.

Паліна звалілася на вялікай хуткасці падчас гонкі. Дзяўчына страціла прытомнасць. На месца прыбылі медыкі, якія даставілі яе ў бальніцу з дыягназам «чэрапна-мазгавая траўма». Суткі яна знаходзілася ў коме. На наступны дзень спартсменцы зрабілі аперацыю, але гэта не дапамагло.

Паліна Жук была прызёрам рэспубліканскіх спаборніцтваў, 16 чэрвеня ёй споўніўся б 21 год. Развіталіся з раварысткай 26 мая ў родным Брэсце.

Тула не ўпершыню стала трагічнай для беларускіх раварыстаў. У 1950 у гэтым расійскім горадзе загінуў Барыс Бальшакоў. За сваю кар'еру ён браў 19 медалёў першынстваў СССР. У гонар Бальшакова праводзілася гонка Мінск — Барысаў — Мінск.

Увогуле ж, веласпорт з'яўляецца адным з найбольш небяспечных відаў спорту. Трагедыі ў ім здараюцца дастаткова часта. У чэрвені 2009 загінула знакамітая веларгоншчыца Зінаіда Стагурская.

38-гадовай спартсменкі не стала падчас трэніроўкі ў Віцебскай вобласці. На 93-м кіламетры аўтадарогі мяжа Расійскай Федэрацыі — Віцебск — Гомель яе збіў аўтамабіль «Хонда ЦР-В» з расійскімі нумарамі.

На аўтамабілі «ВАЗ-2104» ехаў трэнер, а за ім на адлегласці 10 метраў Зінаіда Стагурская. Аўтамабілі размінуліся, а раварыстка трапіла пад колы «Хонды». Памерла Зінаіда на месцы.

Стагурская была пераможцай Tour de France, а таксама чэмпіёнкай свету.

**Зміцер Панкавец**



**Паліна Жук.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Дру...карнікі, альбо Заўтрашняя газета

Днямі малады калега з жалем паскардзіўся, што не здолеў напісаць артыкул у газету, бо не працаваў інтэрнэт...

...Кожны раз, калі ў Мінск наведваецца заезджы госць, я, знаёмячы яго з горадам, абавязкова паказваю Дом друку на галоўным праспекце. Не сказаць, каб вылучаўся нейкай асаблівай даўнінай (хаця сапраўды можа лічыцца помнікам дзвюх савецкіх эпох), а вось нешта ж прыцягвае да яго, вымушае думаць аб хуткацечнасці, і ў той жа час — аб безупыннасці быцця. Зрэшты, я ведаю што: акно на трэцім паверсе *старога* будынка побач з пераходам у *новы* — так просценька пазначаліся яны, пакуль не з'явіўся шматпавярховы Дом прэсы на Багдана Хмяльніцкага... За гэтым акном — амаль 15 гадоў жыцця, якіх толькі і хапіла на тое, каб больш-менш асвоіцца ў журналістыцы...

І вось што самае дзівоснае ад тых гадоў — нараджэнне свежага нумара газеты. Ад ранішняй, у спрэчках і лаянцы, планёркі; дзённай, у бясконцых тэлефонных трэлях, груку друкарак ды ляскатанні тэлетайпа, мітусні; начнога, да світання, дбання над газетнымі палосамі ды паспешлівай беганіны ў газетны цэх да таго шчаслівага моманту, калі, стомлена ўладкаваўшыся на сядзенні, працягваеш таксісту пахнучую друкарскай фарбай газету: «Вось, заўтрашняя...» — «Заўтрашняя?!»...

Ад тых часоў многае, калі не ўсё, змянілася ў газетнай ды друкарскай справе. Не схіляюцца больш над вярстальнымі сталамі шматвопытныя вярстальнікі, аддаўшы сваю прафесію камп'ютарным геніям вялікіх і малых рэдакцый; не сустрэнеш сёння ў рэдакцыях машыністак, а ў друкарнях — лінатыпістак, з неймавернай хуткасцю набіраючых у метале таленавітыя ды няздарныя тэксты; і нікога не здзівіш ані заўтрашняй, ні, тым больш, сёняшняй газетай — яе ўздзеянне на наша жыццё скурчылася да той кропкі, з якой толькі і магчыма зноўку пачынаць узрастаць...

Але ўзрастаць не выпадае.

Наадварот. Намаганнямі лукашэнкаўскага «першадрукара» Праляскоўскага запланавана праз нейкія холдынгі звесці ўсе дзяржаўныя газеты ў адну, у лепшым выпадку — дзве. І стварыць усёабдымныя сайты, каб сучасны чытач,

## Не веру я ў інтэрнэт па-праляскоўску

якому абрыдла чытаць адно і тое ж у папяровых газетах, адважна кінуўся ў каламутныя хвалі інтэрнэт-прапаганды...

Здавалася б, няма чаго шкадаваць аб знікненні шэрагу аднастайных дзяржаўных газет. Знікла вось «Чырвоная змена». І што?

Але чамусьці шкада.

Не, не таму шкада, што робіцца ці не апошні крок да таго, аб чым без залішняй сарамлівасці выказаўся ў свой час Беніта Мусаліні: «У таталітарным рэжыме друк з'яўляецца часткай рэжыму і сілай, якая яму служыць...»

Гістарычна марны крок. Вядома, што сталася з Мусаліні і ягонай «сілай»...

Насамрэч шкада таго, што намаганнямі міністэрскіх дру.., прабачце, ...карнікаў робіцца ці не апошні крок да вынішчэння культурнай спадчыны, якой, безумоўна, з'яўляецца беларускі друк, увасоблены, у тым ліку, газетамі савецкага часу. Гаворачы па-сучаснаму, нацыянальнымі брэндамі, напрацаванымі пакаленнямі таленавітых пісьменнікаў і журналістаў.

Так, той друк таксама служыў рэжыму, быў ягонай часткай і сілай. Але і ён жа той рэжым разбураў. Бо калі пахіснулася партыйная моц, першыя гукі ад землятрусу, які набліжаўся, чуліся праз *заўтрашнія* газеты...

Сёння дзяржаўныя газеты спрэс *учорашнія*. Як і рэжым. Рэжым, які вельмі занепакоены тым, што патэнцыйна яны здольныя набыць калі-небудзь рысы *заўтрашніх*. Хай лепш знікнуць, чымсьці пачнуць служыць не рэжыму, а грамадству і людзям. Хаця б так, як падчас мінулай вайны «Савецкая Беларусь» паслужыла жаўнеру Ешчыку, які прасіў майго бацьку, ваеннага журналіста, даслаць «старых газет для смалення...»

Зжаўцелы абрывак з архіва, алоўкам...

Сёння ці не фінская бумага «Саўбеліі» нават на самакрутку не прыдатная. Не гаворачы ўжо пра сайт...

Не, не веру я ў інтэрнэт па-праляскоўску. Усе надзьмутыя нібыта дзяржаўным клопатам размовы пра інтэрнэт — фальшывая спроба перашкодзіць незалежнаму слову і вольнай думцы з дапамогай набіраючых папулярнасць тэхналогій.

Я ўвогуле не веру ў знішчальную для друкаваных газет моц ІТ-тэхналогій.

Бо справа не ў носьбіце слова, а ў тым, што Слова і Друк не могуць жыць паасобку.

Нават калі праз гады ці стагоддзі людзі будуць чытаць ранішнюю газету проста ў паветры, а заўтрашнюю — сілай уяўлення, усё роўна гэта будзе Слова, гэта будзе Друк.

А інтэрнэт, як бачым, здараецца, не працуе...

*kamerton_41@mail.ru*

# Здымак года — партрэт мамы Улада Кавалёва

Падведзеныя вынікі «Прэс-фота Беларусі-2012».

Ужо трэці год вызначаюцца найлепшыя здымкі беларускіх фатографаў. У сямі намінацыях, падзеленых на адзіночныя і серыйныя здымкі, вызначаюцца пераможцы.

Сёлета заявак было найбольш за час існавання конкурсу. У фінал выйшлі працы аж 46 фатографаў. Лаўрэатаў вызначалі знаныя фатографы з суседніх краін.

Пераможцаў абвесцілі 26 мая ў галерэі «Ў». Вёў вечарыну музыка Лявон Вольскі.

Гран-пры атрымаў фатограф Аляксандр Васюковіч за здымак Любові Кавалёвай, маці абвінавачанага ў падрыве станцыі метро «Кастрычніцкая» Уладзіслава Кавалёва. Маці разглядала здымкі сына. Фота было зробленая ў жніўні, яшчэ да пачатку судовага працэсу.

Фотакар «НН» Сяргей Гудзілін, пераможца мінулага «Прэс-фота», атрымаў чатыры прэміі. Сярод іх было і першае месца ў намінацыі «Партрэты» (Серыі). Гудзілін здымаў праз краты твары арыштаваных удзельнікаў «маўклівых акцый пратэсту».

Прапануем увазе чытачоў невялікую падборку здымкаў-пераможцаў.

**Лявон Максюта**



Гран-пры. Маці Уладзіслава Кавалёва разглядае партрэт сына. Віцебск, жнівень 2011. Фота Аляксандра Васюковіча.



Тэракт быў адной з ключавых тэм «Прэс-фота». Раміль Насібулін перамог з серыяй здымкаў у намінацыі «Навіны».



Людзі ў навінах. Першае месца атрымала Таццяна Зянковіч за здымак салдата, твар якому падчас прысягі закрывае дзяржаўны сцяг.



Традыцыйны фуршэт перад паездкай у ЗАГС у кватэры нявесты. Пераможца ў намінацыі «Традыцыі». Здымак Андрэя Давыдчыка.



Арнітолаг Уладзімір Іваноўскі будуе штучныя гнёзды для драпежных птушак на балоце Ельня, адным з найбольшых у Цэнтральнай Еўропе (Віцебская вобласць). Фота Васіля Фядосенкі, прызавое месца ў намінацыі «Прырода».



Іншы бок свабоды. Партрэты людзей у турме, якіх арыштавалі летам 2011 за ўдзел у «маўклівых пратэстах». Фота Сяргея Гудзіліна перамагло ў намінацыі «Партрэты».

# Рэха віцебскіх выбухаў: дырэктар завода, міліцыянты

### Начальніка Канавалава аштрафавалі

У красавіку 2011 сілавікі паведамілі пра затрыманне падазраваных па выбуху ў мінскім метро. Толькі з часам паступова стала з’яўляцца і інфармацыя пра іх. Прозвішчы, месцы працы, знаёмствы. Правяралі ўсіх, хто быў нейкім бокам звязаны з Канавалавым і Кавалёвым.

Часткова вынікі такіх праверак станавіліся вядомымі. Так, у канцы мая паведамілі пра звальненне дырэктара Віцебскага завода трактарных запасных частак Уладзіміра Федарэнкі. Яго палічылі вінаватым у незабеспячэнні патрэбных паказнікаў сацыяльна-эканамічнага развіцця прадпрыемства, а таксама нізкім ўзроўні працоўнай і вытворчай дысцыпліны, бескантрольнасці захавання матэрыяльных каштоўнасцяў, хібах у ідэалагічнай працы.

На гэтым заводзе працаваў Дзмітрый Канавалаў. Падчас папярэдняга следству ён сведчыў, што металічнае начынне для выбухоўкі ўзяў на прадпрыемстве. Таму ніхто не сумняваўся, што справа выбуху і звальненне дырэктара звязаныя.

На Федарэнку яшчэ і крымінальную справу завялі. Абвінавацілі ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненым паўторна альбо групай асобаў па папярэдняй змове. Але да суда справа не дайшла. Дакладней, судзілі былога дырэктара па адміністрацыйнай справе.

«Па выніках расследавання вынесена пастанова аб вызваленні абвінавачанага Федарэнкі ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з прымяненнем мер адміністрацыйнага спагнання на падставе п.3 ч.1 арт.30 КПК і арт. 86 КК, паколькі ён упершыню здзейсніў менш цяжкае злачынства і цалкам кампенсаваў нанесеную шкоду», — паведамілі ў Генеральнай пракуратуры. Суму шкоды, праўда, не назвалі, а вось штраф прысудзілі спагнаць з начальніка Канавалава ў памеры 10 базавых велічынь (350 тыс. руб. на той час).


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Каго пакаралі — ведаць неабавязкова

Пра суды над міліцыянтамі (тым, хто не ўзяў у Дзмітрыя Канавалава адбіткі пальцаў і тым, хто не праверыў яго сумку пры ўваходзе ў метро 11 красавіка), хоць і са спазненнем, але паведамілі. А вось пра пакаранне тых, хто незаконна месяцамі ўтрымліваў людзей за кратамі па справе выбухаў, пракуратура маўчыць і сёння.

Пасля выбухаў у Віцебску ў верасні 2005 паведамлялася пра пецярых затрыманых. Па некаторай інфармацыі, гэтых людзей хутка адпусцілі, бо яны не мелі дачынення да справы. Але затрымалі новых — братоў Віталя і Юрыя Мурашкаў, якім і прад’явілі абвінавачванне. Іх пратрымалі за кратамі ад 30 верасня 2005 да 31 сакавіка 2006. Выпусцілі ж пад падпіску аб нявыездзе. Але нават праз два месяцы пасля іх выхаду на свабоду старшыня КДБ Сцяпан Сухарэнка заяўляў, што «яны маюць да выбухаў дачыненне, але следства яшчэ вызначыць ступень іх удзелу ў гэтай справе». У выніку з братоў былі знятыя абвінавачванні і ім выплацілі кампенсацыю. А Сухарэнку праз год адправілі ў адстаўку.

У справе Мурашкаў быў і лжэсведка Аляксей Буда. Пазней ужо ён заявіў, што даваў паказанні супраць сваіх знаёмых пад пагрозай фізічнай расправы з боку супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Гэтая акалічнасць стала вядомая на працэсе над Канавалавым і Кавалёвым.

## Маёр КДБ Дзямідаў адмаўляецца гаварыць з журналістамі

У кастрычніку 2006 па справе выбухаў затрымалі і актывіста апазіцыі Паўла Красоўскага. А затым яго рэзка «западозрылі» ў забойстве і згвалтаванні. Хлопец правёў за кратамі дзесяць дзён. У выніку і з яго знялі ўсе абвінавачванні.

Хто панёс пакаранне за памылкі, зробленыя падчас следства? Падаткаплацельшчыкам гэта ведаць неабавязкова. Так лічаць у Генеральнай пракуратуры. На адпаведны запыт з гэтай установы прыйшоў наступны адказ: «Дакументы па выніках службовых расследаванняў, а таксама звесткі, якія ўтрымліваюцца ў дакументах аб працы па раскрыцці злачынстваў і расследаванні крымінальных спраў, па пытаннях пракурорскага нагляду за выкананнем заканадаўства пры ажыццяўленні папярэдняга следства з’яўляюцца службовай інфармацыяй абмежаванага распаўсюджвання, у сувязі з чым не могуць быць Вам прадстаўлены». Гэта азначае, што не могуць паведаміць пра міліцыянта, які пайшоў на злачынства, каб атрымаць патрэбныя паказанні. А невядомасць прымушае сумнявацца ў іх пакаранні.

### Хочуць спакойна жыць

Сітуацыю па віцебскіх выбухах, напэўна, мог бы праясніць і яшчэ адзін фігурант справы — маёр КДБ Андрэй Дзямідаў. Ён уваходзіў у групу па расследаванні віцебскіх выбухаў пакуль сам не стаў абвінавачаным. У 2007 ён некалькі месяцаў правёў і СІЗА. «НН» паспрабавала пагаварыць з Дзямідавым. Але, па словах яго жонкі Наталлі, муж не будзе размаўляць з журналістамі. Маўляў, яны хочуць спакойна жыць. Тады ж, у 2007, родныя маёра, калі адчулі, што яго могуць пасадзіць надоўга, пайшлі на кантакт з незалежнай прэсай.

Прысуд па крымінальнай справе выбухаў у Мінску і Віцебску вынеслі паўгода таму. Два месяцы назад Канавалава і Кавалёва расстралялі.

**Сяргей Макарэвіч**

# Тэракт за тэрактам

**Нечуваная актыўнасць тэрарыстаў.**

Цягам месяца на поўдні краіны быў здзейснены выбух, кваліфікаваны як тэрарыстычны акт, а таксама прадухілены замах на тэракт.

Апошні выпадак здарыўся 24 мая ў Жлобіне. Каля будынка міліцыі быў затрыманы 21-гадовы. Па інфармацыі КДБ, на твары ў яго была маска з надпісам на арабскай мове, а пры сабе — ёмістасці з запальнай сумессю і самаробнай выбуховай прыладай магутнасцю каля пяці кілаграмаў у траціловым эквіваленце.

Ён «спрабаваў здзейсніць тэрарыстычныя дзеянні ў дачыненні да супрацоўнікаў падраздзялення МУС па месцы іх дыслакацыі». Спачатку малады чалавек кінуў бутэльку ў будынак, каб адцягнуць увагу міліцыянтаў. А сам пачаў злучаць драты ў выбухоўцы. Але ў гэты момант яго затрымалі. У КДБ заявілі, што затрыманы мае сувязі з арганізаванай злачыннай групай па перапраўцы грамадзян Афганістана ў адну з еўрапейскіх краін. У той час ёсць і інфармацыя, што затрыманы — не зусім адэкватны чалавек.



З такім арсеналам быў затрыманы малады чалавек у Жлобіне.

Адметна, што два выбухі да гэтага так і не змаглі прадухіліць. 25 красавіка ў Кобрыне выбухнула граната, у выніку чаго загінулі два чалавекі. Крымінальную справу кваліфікавалі як тэрарызм. А тыднем раней у Гомелі выбухнула самаробная прылада ў гандлёвай зале адной з крам. На прадэманстраваным тады відэа з крамы выбух па магутнасці нагадваў хутчэй выбух петарды. Крымінальную справу распачалі па артыкуле «пагроза здзяйснення акта тэрарызму». Адметна, што на той дзень у КДБ былі прызначаны міжведамасныя камандна-штабныя вучэнні па тэме «Арганізацыя і ажыццяўленне мер дзяржаўнага рэагавання на акты тэрарызму».

Звяртае на сябе ўвагу факт, што тэрарысты праявілі актыўнасць адразу пасля заяваў Лукашэнкі і пагранкамітэта пра паслабленне аховы мяжы з Еўрасаюзам. Маўляў, цяпер эмігранты з усходу не будуць прыпыняцца ў Беларусі, і гэта стане праблемай нашых заходніх суседзяў.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Гвалтавалі і здымалі на відэа

Злачынства адбылося ў Светлагорску ў кампаніі моладзі. Групавое згвалтаванне школьніцы падлеткі знялі на мабільны тэлефон. Відэа перадавалася з рук у рукі, пакуль не трапіла да міліцыянтаў. Пасля здарэння ні пацярпелая дзяўчына, ні яе бацькі, якім ад крыўдзіцеляў дачкі паступалі пагрозы, з заявай у праваахоўныя органы не звярталіся. Па падазрэнні ў злачынстве затрыманыя двое жыхароў Светлагорска, адзін з іх непаўналетні.

### Шукала кілера для бацькі

За забойства свайго бацькі жыхарка Мар’інай Горкі прапаноўвала заплаціць 5 тысяч даляраў. Было ўстаноўлена, што жанчына, раней судзімая за крадзеж і ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе папраўчых работ, з сярэдзіны красавіка рыхтавала забойства свайго састарэлага бацькі. Падазраваная затрыманая.

### Узяў у закладнікі дзіця

20-гадовы жыхар вёскі Свіслач Асіповіцкага раёна прывязаў да дрэва 11-гадовае дзіця і не адпускаў яго, пакуль бацькі хлопчыка не вярнулі 200 тысяч рублёў доўгу. Бацькі грошы аддалі, а потым пайшлі ў міліцыю. Затрыманаму пагражае да 5 гадоў турмы.

**КМ**

# Ці пакажуць «У тумане» ў Беларусі?

**Фільм паводле аповесці Быкава** атрымаў прыз Міжнароднай федэрацыі кінакрытыкаў на Канскім кінафестывалі.



Рэжысёр Сяргей Лазніца (злева) выйшаў на «чырвоную дарожку» ў Канах пад песню Касі Камоцкай «Мой паляўнічы».

25 мая ў асноўным конкурсе кінафестывалю ў Канах упершыню было прэзентаванае кіно, створанае з удзелам беларускай студыі. Стужка «У тумане», знятая кінарэжысёрам Сяргеем Лазніцам паводле аповесці Васіля Быкава, атрымала прыз міжнароднай федэрацыі кінакрытыкі FIPRESCI.

Тыя, каму пашчасціла бачыць «У тумане», называюць гэтую экранізацыю Васіля Быкава «змрочнай і дакладна разлічанай», «аналітычнай і віртуознай». Першыя кадры фільма — кірмашовы пляц у акупаваным немцамі мястэчку. Там адбываецца паказальная страта савецкіх дыверсантаў.

Фонам гучаць навіны з рэпрадуктара: на добрай расейскай мове паведамляецца пра аднаўленне беларускай эканомікі пад немцамі. «Няўлоўна падобна да прамоваў Лукашэнкі», — адзначае кінакрытык Газеты.ru.

Цэнтральныя персанажы — савецкія партызаны Бураў і Войцік — цягам усяго фільма ідуць праз лясны гушчар. Яны вядуць чыгуначнага абходчыка Сушчэню, які, лічаць партызаны, выдаў немцам тых, каго забілі на кірмашовым пляцы. Якія яшчэ трэба доказы: тых забілі, а яго вызвалілі. У невінаватасць Сушчэні не вераць нават яго родныя.

Фільм розніцца ад спрошчанага постсавецкага кіно пра вайну. Ён нагадвае «тэатральную п'есу для трох персанажаў» — з распрацаванымі дыялогамі і быкаўскай мовай, якая, адзначаюць крытыкі, гучыць «трохі архаічна». Да таго ж, у фільме зусім няма музыкі.

Абходчыка сыграў актор родам з Барысава Уладзімір Свірскі. У яго ўвасабленні Сушчэня — «дужы барадаты хлопец з празрыстым позіркам і коснаязыкай гаворкай, чый маральны кодэкс сфармуляваны аднаскладовым «не магу». Гэта ідэальны і менавіта таму няпэўны для навакольных чалавек, для якога не існуе ўнутраных супярэчнасцяў», піша Газета.ru.

Канская зала сустрэла «У тумане» стрыманымі, але працяглымі апладысментамі.

Ці пакажуць карціну паводле Васіля Быкава ў Беларусі?

Як паведамілі «Нашай Ніве» ў УП «Мінсккінавідэапракат», фільм плануецца да паказу ў кінатэатрах, але пакуль невядома калі — «Беларусьфільм» мусіць прадаць правы на яго. Начальнік аддзела рэалізацыі і рэкламы «Беларусьфільма» Міхаіл Кацюшэнка запэўнівае, што фільм трапіць на экраны, але «трошкі пазней, чым думалі першапачаткова»: «Нямецкая кінастудыя хоча спачатку пракаціць стужку па некаторых еўрапейскіх фестывалях, а толькі пасля запусціць у шырокі пракат», — паведаміў М.Кацюшэнка.

**Сяргей Мікулевіч, Юрась Ускоў**



Ролю Сушчэні сыграў актор-беларус Уладзімір Свірскі.

# Лорын: нетыповая зорка шоу-бізнэсу




**Пераможца «Еўрабачання»** сустрэлася з азербайджанскай апазіцыяй.

Свет захапляецца «Еўрабачаннем». Цікавіць яно і чытачоў байнэту, хоць беларускія канкурсанты, гурт Litesound, у фінал не трапіў, заняўшы ў паўфінале 16-е месца з 18-ці.

Галасавалі беларусы традыцыйна за суседзяў — максімум, 12 балаў, яны аддалі прадстаўніцам Расіі. «Буранаўскія бабулі» — фантастычны фальклорны гурт з Удмурціі, які ўтварыўся там пры мясцовым вясковым клубе. Блізкія па духу беларускія калектывы па БТ паказвалі ў праграме «Запрашаем на вячоркі». Дзесяць балаў нашы суайчыннікі аддалі Гайтане, прадстаўніцы Украіны з кангалезскімі каранямі. Восем балаў атрымаў Доні Монтэл з Літвы.

Перамагла ж на «Еўрабачанні» экзатычная Лорын. Спявачка ўразіла моцным сакавітым голасам і гарачым танцам на сцэне. Гэта пятая перамога Швецыі за час існавання «Еўрабачання».

Сапраўднае імя Лорын — Зінэб Нока Талхау, яе бацькі родам з Марока. Але сама Лорын нарадзілася ўжо ў Стакгольме. Яна старэйшая з васьмі дзяцей у сям'і. Лорын стала папулярнай у Швецыі у 2004, калі перамагла ў музычным тэлешоу.

Дзеля ўдзелу ў конкурсе еўрапейскай песні спявачка змяніла знешнасць — выпрастала свае кучаравыя афрыканскія валасы.

Лорын зрабіла незвычайную для «Еўрабачання» рэч. У Баку спявачка сустрэлася з актывістамі апазіцыі, якія пратэставалі супраць гвалтоўнага высялення людзей з вёскі, на месцы якой пабудавалі Крыстал Хол для «Еўрабачання». «Правы чалавека парушаюцца ў Азербайджане штодня. Пра гэта нельга маўчаць», — сказала Лорын. Спявачка атрымала заўвагу ад азербайджанскага ўрада за тое, што выступае з палітычнымі заявамі, якім «няма месца падчас музычнай падзеі».

Сёлета перамога не выклікае неўразумення. Лорын кажа, што многа працавала, каб дасягнуць гэтых вынікаў. А рэцэптам перамогі, на яе думку, з'яўляецца «натуральнасць».

**СМ**

## Чаму Litesound не перамог?

Аналізуе прадзюсар гурта **Юрый Каракін**.

**«Наша Ніва»: Хлопцы ўжо адпачылі?**

**Юрый Каракін:** Хлопцы адразу з карабля на баль: у іх дзяржіспыты. Дзіма сёння атрымаў «8» [сканчае Акадэмію мастацтваў — «НН»].

«НН»: Як Вы лічыце, чаму не ўдалося выйсці ў фінал?

**ЮК:** Пасля нашага выступу нас па ўласнай ініцыятыве віншавала і сама пераможца са Швецыі. Чаму не прайшлі — невядома. Можа, палітыка ці нешта не спадабалася ў выглядзе...

**«Наша Ніва»: Расійская прадзюсарка Яна Рудкоўская казала пра дрэнны вакал…**

**ЮК:** Так выйшла, што з усіх нумароў другога паўфінала Litesound раптам апынуўся з заніжаным узроўнем гуку. На нашым нумары даводзілася павялічваць гучнасць тэлевізара. Можа, яна гучнасць не павялічыла? Ніводзін спецыяліст па вакале не выказаў нараканняў. Усё абсалютна чыста праспявана.

**«НН»: Чаму перамагла Лорын?**

**ЮК:** Швецыя, як-ніяк, — арганізатар конкурсу. Яны ведаюць, як падрыхтавацца. Там шмат «фішак», якія робяць нумар істотна мацнейшым. Лорын выконвае нумар у няспынным руху. Некаторыя рухі проста фізічна не дазваляюць забяспечыць нармальны вакал. Таму сінхронна з ёй спявае бэк-вакал, нота ў ноту, чатыры чалавекі. Як быццам спявае адзін чалавек, але з надзвычай цікавым тэмбрам, з сакавітым, напорыстым гукам. Нумар добра пастаўлены, цікавая задума — і вось вынік. Але ў мяне асабіста ён асацыяваўся з цёмнымі сіламі. Мятлу ў рукі — атрымаецца Баба Яга, толькі маладая (смяецца).

**«НН»: Лорын сустрэлася з прадстаўнікамі азербайджанскай апазіцыі. Ці збіраецца Litesound сустрэцца з беларускай апазіцыяй, падтрымаць палітвязняў?**

**ЮК:** Litesound падтрымлівае ўсіх людзей, якія змагаюцца за сваю свабоду, незалежнасць. Мы за тое, каб людзі дапамагалі і не адварочваліся адзін ад аднаго. Litesound ніколі не вылучаў асобна — апазіцыя, не апазіцыя. Мы ўвогуле заўсёды пазіцыянаваліся па-за палітыкай.

**Гутарыла Аксана Рудовіч**

### Лукашэнка: Убухалі велізарныя грошы, а выніку ніякага

«Трэба зрабіць добры нумар, узяць унікальнага артыста, каб ён праспяваў так, каб спецыялісты ахнулі, а ўжо еўрапейская грамадскасць сама сабе хай потым дае адзнаку за свае адзнакі, — мяркуе Лукашэнка. — Калі ўжо прайграваць, то прайграваць годна. А так мы сапраўды угрохалі велізарныя грошы, а выніку ніякага».

## Лявон Вольскі: Не хачу выступаць пад існуючай сімволікай

**«Наша Ніва»: Як Вам выступ Лорын?**

**Лявон Вольскі:** Я паглядзеў яго ў інтэрнэце. Аранжыроўка там зусім простая, магчыма, сваю ролю адыграла экзатычнае паходжанне спявачкі, яна ж берберка. Магчыма, вось гэты бедуінскі дух, які ў яе ёсць, і зачапіў вуха еўрапейскага слухача.

**«Наша Ніва»: А што трэба зрабіць беларусам, каб уразіць Еўропу?**

**ЛВ:** Я б увогуле не раіў Беларусі ўдзельнічаць у гэтым конкурсе ў той сітуацыі, якая склалася ў беларускай музыцы. Бо калі адпраўляць кагосьці, то — з забароненых ці «нерэкамендаваных» артыстаў. Калі разлічваць на галасы суседніх краінаў, то варта адправіць Сяргея Міхалка. Калі рабіць стаўку на беларускую экзотыку, шаманства — відавочна, падыдзе «Тройца». Але такога ж не здарыцца.

**«НН»: Неаднаразова гучала меркаванне, што «Крамбамбуля» магла б добра прадставіць Беларусь. Ці пагадзіліся б Вы?**

**ЛВ:** Ад Беларусі — не. Бо я не хачу выступаць пад існуючай сімволікай.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

# «У адным чыноўнікі дамагліся, чаго хацелі»

Некалькі словаў **пра «свята» дзяржаўнага герба** і сцяга.

Прачытаў, што нашыя сённяшнія дзяржаўныя сімвалы вельмі старажытныя: «В этих символах отражена славная многовековая история Беларуси». Сённяшнія 20-гадовыя, калі яны не цікавяцца гісторыяй, можа, і павераць у гэта. Гэта ж колькі стагоддзяў мінула з 1995, калі былі зацверджаныя сённяшнія герб і сцяг нашай дзяржавы? Відаць, нашым чыноўнікам трэба вучыць арыфметыку. А можа, яны наўмысна ўводзяць у зман моладзь?

У адной справе яны ўжо дамагліся, чаго хацелі: моладзь не размаўляе на роднай мове. Цяпер яны мараць пра тое, каб сцерці з людской памяці сапраўды шматвяковую гісторыю роднага краю, старадаўнія сімвалы народаў ВКЛ: герб «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг. З гэтымі сімваламі нашыя продкі змагаліся з ворагамі многія стагоддзі. Вельмі балюча і крыўдна, што сённяшняя ўлада не хоча гэтага прызнаць, а наадварот, пераследуе людзей за тое, што яны паважаюць сімвалы сваіх продкаў.

Славуты нямецкі паэт і драматург Шылер пісаў, што «ісціна абсалютна не перажывае праз тое, што хтосьці яе не прызнае». Ісціна не патрабуе ніякіх доказаў. Герб «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг — гэта нашая гісторыя. Ісціна. Яна ёсць і заўсёды будзе. Яна ніколі і нікуды не знікне.

**Міхаіл Спірыдовіч, Івянец (Валожынскі раён)**

## Беларусы, адчыніце форткі!

У тралейбусе спацелая задуха
Доўжыцца, здаецца мне,
бясконца…
Каб жа хто набраўся
ўрэшце духу
І адкрыў не люк,
дык хоцьваконца!

І няўжо вам даспадобы горкі,
Застаялы пах
балотных нетраў?
Беларусы! Адчыніце форткі,
Упусціце свежае паветра!

**Рыгор Серыкаў**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# «Плакалі мае 80 тысяч»

Як я **здаваў білеты** на «Мінск-Арэне», якія мне ўцюхалі ў школе.

У школе зноў умалілі купіць два білеты на «Мінск-Арэну». Гэтым разам на бальныя танцы. Білеты нятанныя, па 40 тысяч. Чаму купіў? Прасіла класная кіраўніца. Як я зразумеў, настаўнікам прыходзіцца свае грошы аддаваць, калі ніхто з вучняў не ідзе.

Таму сёлета мая дачка ўжо наведала ў «Мінск-Арэне» коўзанку (рэкамендавалі нават не браць з сабой канькоў, а ўзяць там напракат, але мы назвалі гэта абсурдам) і фігурнае катанне. Схадзілі б і на бальныя танцы — усё ж нешта новае, — але дзяўчынка прыхварэла.

Паехаў я здаць білеты, і што вы думаеце?

Па-першае, іх у мяне не прынялі, бо здаць можна толькі за пяць дзён да мерапрыемства (ёсць адпаведны ўказ). Па-другое, іх у мяне не прынялі, бо білеты, купленыя праз Bileti.by, можна здаць толькі праз тыя самыя Білеты.бай. Па-трэцяе, іх не прынялі, бо яны былі набыты за безнаяўны разлік. А што я адкупіў іх у школе за наяўны — гэта нікога не хвалюе.

Так я і пайшоў з «Мінск-Арэны» з чым прыйшоў, адно што накатаў прапанову ў Кнігу скаргаў змяніць правілы здачы білетаў.

Што ў мяне ў «Мінск-Арэне» ўражвае, гэта гладкія, маладыя, здаровыя ахоўнікі, пачкамі, на ўсіх уваходах. Нашы грошыкі працуюць!

**Андрэй, Мінск**

## Будаўнічыя «цуды»

Мяне цікавіць, чаму на адной з «хакейна-чэмпіянатаўскіх» будоўляў — скрыжаванне вуліц Маякоўскага і Дзянісаўскай — па некалькі разоў перакладваюць асфальтавае пакрыццё. Што за дзіўная тэхналогія: спачатку адкрылі мост, пусцілі па ім транспарт... неўзабаве зноўку закрылі яго, знялі асфальт і нанова паклалі. Таксама з участкам па Дзянісаўскай.

А мо гэта не тэхналогія, можа, гэта нашыя славутыя будаўнікі сталіся прычынай такіх будаўнічых «цудаў»? Вось куды, у прыватнасці, ідуць грошы падаткаплацельшчыкаў...

**Матусевіч, Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Воўчын**

Піша **Павел Севярынец**.

*Князі ў яе як ваўкі,*
*Якія вырываюць здабычу.*
*Езекііль 22:27.*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Воўчын — самае заходняе беларускае мястэчка, на тым самым выступе, што ўкліньваецца ад Берасця ўглыб Еўропы. З аднаго боку Польшча, з іншага — Пушча. Побач — Камянец і легендарная Белавежа. Скрайні полюс беларускай глыбіні.

У самую чорную пару, напрыканцы XVIII ст., калі найяснейшай Рэчы Паспалітай прыйшоў час расплочвацца за два стагоддзі пыхі, распусты і шляхецкай сваволі, Воўчын стаў для Беларусі тым, чым у XIII ст. быў Навагрудак, у XIV — Крэва, у XV—XVI — Вільня, а ў XVII — Нясвіж. Кропкай апірышча. Цэнтрам сілы. Сімвалам эпохі.

Дзяржаўны лад трашчаў па швах, глабальнае абязбожванне падарвала Касцёл і Царкву; пачуўшы попах, драпежныя Расея, Прусія ды Аўстрыя сцягвалі да межаў войскі і ў самым глыбокім кутку, на мяжы Вялікага Княства і Кароны, у сядзібе Чартарыйскіх найбольш уплывовыя магнаты, дзеячы ды розумы збіраліся, каб вырашыць, як уратаваць Айчыну.

Воўчын. Было ў гэтым нешта ваўчынае, адчайнае, быццам мацёрую вялікалітоўскую зграю загналі ды абклалі чырвонымі сцяжкамі ў Белавежскай пушчы — і, атачаныя з усіх бакоў, беларусы ашчэрылі зубы, каб біцца насмерць.

Але — як? «Умацаваць уладу», — пастанавілі валадары Воўчына, Чартарыйскія. Уладальнікі двух знакамітых мячоў з Грунвальда, Чартарыйскія з роду Гедымінавічаў, герба «Пагоня з вежамі». Гэта іх продак у 1440 арганізаваў змову і забойства Жыгімонта Кейстутавіча, а потым уцёк у Маскву. Да другой паловы XVIII ст. Чартарыйскія набралі столькі моцы, земляў і дынастычных сувязяў, што маглі супернічаць з Радзівіламі ды Сапегамі. Міхаіл Фрэдэрык Чартарыйскі, з 1752 канцлер Вялікі Літоўскі, зрабіўся мозгам партыі рэфарматараў усёй Рэчы Паспалітай; Адам Казімір узначальваў магнацкую апазіцыю каралю і дамагаўся прыняцця Канстытуцыі 3 мая, а ягоны сын Адам Юрый Чартарыйскі, чыя асабістая бібліятэка налічвала 40 тысячаў тамоў, змагаўся поплеч з Касцюшкам, пасля паразы паўстання склаў праект аднаўлення незалежнасці ВКЛ, у пачатку XIX ст. быў прызначаны міністрам замежных справаў Расейскай імперыі, а ў 1830—1831 — кіраўніком паўстанцкага Нацыянальнага Урада...

## Калі вакол ваўкі, іх не пераможаш па-ваўчынаму

«Э-э-э, сябры, — злаваў сталы наведнік і навучэнец Воўчына, каралеўскі стараста і рэфарматар Антоній Тызенгаўз, — эканоміка!» Таленавіты фінансіст ды мецэнат, ён паўсюль засноўваў мануфактуры (прычым часам не грэбаваў скасоўваць магдэбургскае права ў мястэчках ды пераводзіць незалежных сялянаў на паншчыну, каб атрымаць танную працоўную сілу) — і разлічваў адрадзіць Рэч Паспалітую шляхам нарошчвання грашовай і гаспадарчай магутнасці.

«Асветай ды культурай!» — пераконваў усіх яшчэ адзін воўчынскі геній, ад'ютант Касцюшкі ды асабісты сакратар Адама Казіміра Чартарыйскага, член Адукацыйнай Камісіі Юльян Нямцэвіч са Скокаў пад Берасцем — аўтар паэтычнай хрэстаматыі польскай гісторыі, камедыяў ды раманаў у духу Вальтэра Скота...

«Дыпламатыяй, дыпламатыяй», — паўтаралі пра сябе сваякі Чартарыйскіх, Панятоўскія. Што такое была дыпламатыя ў XVIII ст.? Інтрыгі, грошы, красамоўства, замежныя мовы і, вядома, ложак. Малады, абаяльны і забяспечаны Станіслаў, што вучыўся ў еўрапейскіх універсітэтах і ўвіхаўся пры каралеўскіх дварах, пасаваў да гэтай ролі як найлепш.

Народжаны ў Воўчыне, сын кракаўскага кашталяна Панятоўскага і Канстанцыі, княжны Чартарыйскай, Станіслаў дэталёва вывучаў парламентарызм у Англіі, быў пасол у Саксоніі ды Расіі, дзе стаў вядомы дзякуючы сардэчнай прыхільнасці Кацярыны II — і ўжо ў 32 гады, пад ціскам расейскай імператрыцы, быў абраны каралём Рэчы Паспалітай. Пэўна, пакаштаваўшы воўчынскага «дыпламата» ў ложку, Кацярына вырашыла, што менавіта такі кліент урэшце здольны будзе здаць Расіі польска-літвінскую дзяржаўнасць — і не памылілася.

Прыемны і адукаваны, але бязвольны еўрапеец Панятоўскі моўчкі праглынуў абодва падзелы Рэчы Паспалітай, сядзеў ціха падчас паўстання Касцюшкі, і ў 1795, пад канвоем драгунаў дастаўлены куды трэба, 25 лістапада, у дзень імянінаў расійскай імператрыцы, атрымаўшы 330 тысячаў чырвонцаў на ўтрыманне, са слязьмі на вачах выракся трона.

Расейская царыца, немка Екацярына, распарадзілася перавезці трон свайго былога каханка-беларуса ў Пецярбург, дзе загадала прабіць у ім дзіру і прыстасаваць пад найвышэйшы ўнітаз. Акурат на гэтым гістарычным седзішчы праз год, у лістападзе 1796, яе разбіў паралюш.

А пахаванне апошняга караля Рэчы Паспалітай у воўчынскім касцёле, куды ягоныя парэшткі былі перавезеныя ў 1938, за саветамі было дарэшты разрабаванае.

Каго, чаго не хапіла ў гэтых высілках волі тытынаў розуму, у зборы старых і маладых ваўкоў? Можа, таго ж, чаго вярхоўнаму Савету ў 1996? Або таго, чаго і дэмакратычным кандыдатам у 2001, 2006, 2010?..

Аднаўленне і абарона дзяржаўнасці патрабуюць веры, любові і еднасці. Прысуд гісторыі: калі гэтага няма, палітыка, дыпламатыя, эканоміка і культура губляюць сэнс.

Тыя, хто ненавідзеў Беларусь, з асаблівай апантанасцю білі ў самую яе глыбіню. Менавіта сюды, у душу, пад Белавежскую Пушчу, уваткнулі штык канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай Расія, Аўстрыя ды Прусія. Суворлаўскімі палкамі, агромністай крэпасцю, пабудаванай з цэглы разбуранага старога Берасця, ганебным Брэсцкім мірам 1918, сумесным парадам Чырвонай Арміі і танкаў Гудэрыяна ў 1939, рыццём гіганцкіх сакрэтных бункераў да бомбасховішчаў у пушчанскіх ваколіцах дзеля апошняй сусветнай вайны... Білі, быццам ведалі, быццам прадчувалі, што ключ — тут.

І калі свежым зімовым ранкам у снежні 1991 у Віскулях на стале пад маленькім бел-чырвона-белым сцяжком рухнуў СССР, стала зразумела, чаму дзвесце гадоў у ваколіцах Воўчына так шалела і трымцела зло.

Калі вакол ваўкі, іх не пераможаш па-ваўчынаму. Раўці, поўсць дыбарам, скаліць іклы ды рваць — гэта не нашае.

Бо перамогу дае Той, хто пасылае як авечак сярод ваўкоў. Хто Сам, пакорлівы і ласкавы, быццам ягня, быў забіты і ўваскрос пад бел-чырвона-белым сцягам — Ісус Хрыстос.

*Куплін*

# Як я выратаваў Гельфанду залаты медаль

**У гэтыя дні экс-мінчук Барыс Гельфанд змагаецца за шахматнае чэмпіёнства ў фінале з Анандам і мае ўсе шанцы перамагчы. Піша Павал Касцюкевіч.**



**Што такое бацькава папруга ў параўнанні з дзяцячай калоніяй?**

Уся гэтая абсалютна праўдзівая гісторыя здарылася гадзе дзесьці ў 1993—1994-м, калі Барыс Гельфанд, тады яшчэ беларускі гросмайстар, падаваў шахматныя надзеі і, як цяпер высвятляецца, дакументы на ПМЖ у Ізраіль.

Гросмайстар жыў у Мінску на вуліцы Кузьмы Чорнага непадалёк ад Батсаду, за сто метраў ад крамы «Тысяча дробязяў». У тым самым доме жыў мой аднакласнік. Назавём аднакласніка Ераміем, паводле біблійнага Ераміі, што ўзносіў свой фірмовы плач, — усё таму што ў гэтай гісторыі аднакласнік будзе шмат бедаваць і плакацца ад несправядлівых і справядлівых кар. Сапраўднага імені не скажу: нашто ўскідваць на вочы грахі юнацтва даросламу сур'ёзнаму чалавеку? Хоць, па шчырасці, калі апошні раз я бачыў Ерамію на афіцэрскіх курсах у Тэль-Авіве гадоў пяць таму, ён дарослым і сур'ёзным яшчэ не стаў: у звальненні вырашыў пасмаляць з «М-16» па пустэльным беразе Міжземнага мора з акна кватэры ды ўпоцемку прастрэліў нагу выпадковаму аматару прыбярэжнай рамантыкі.

Дык вернемся да гісторыі пра залаты медаль. Калі Барыс Гельфанд выпраўляўся на спаборніцтвы, яго мама, з якой ён жыў у кватэры на Чорнага, таксама з'язджала да сваякоў, каб не быць адной. І давала суседзям і сябрам — бацькам Ераміі — ключ ад кватэры, каб тыя палівалі кветкі.

І вось аднойчы, вярнуўшыся з чарговай паездкі, Барыс Гельфанд выявіў у кватэры сякія-такія нястачы. Гросмайстар, чалавек аналітычнага складу, хутка і абсалютна справядліва вылічыўшы Ерамію, сказаў ягоным бацькам гэтак: «Мы ўсе ў гэтым доме людзі не чужыя. Ваша мама мыла пялюшкі мне. Мая мама — вашаму Ераміі. І калі мы капнём далей, дык наша мінулае — суцэльнае радовішча з агульных пялюшак, але я не пра гэта... Я гатовы дараваць вашаму сыну разведзеную на сто працэнтаў вадой гарэлку, якую я пакідаў у бары серванта на чорны дзень, і нават скрадзены з бруха парцалянавага Рабіндраната Тагора залаты ланцуг, які я ашчадзіў на тую ж дату. Дарую ўсе страты, акрамя адной рэчы — і ваш непаўналетні бандыт Ерамія ведае якой менавіта. І калі гэтай рэчы не будзе праз 24 гадзіны, дык я маю намеры заявіцца ў міліцыю на Інструментальным завулку».

**У школе, калі ты руды і яшчэ ў дадатак габрэй, дык ты без шанцаў**

Усю гэтую Барысаву тыраду мне слова ў слова паўтарыў сам Ерамія, калі пануры прыцёгся да маёй кватэры і прадэманстраваў спярэшчаны чырвонымі пісягамі азадак. Але што такое бацькава папруга, нават тысяча бацькавых папруг, у параўнанні з дзіцячай калоніяй?

Пакуль чытач мяркуе сабе, што гэта магла быць за такая каштоўная штучка-дручка, я дараспавяду некаторыя важныя факты пра Ерамію.

У школе, калі ты руды і яшчэ ў дадатак габрэй, дык ты без шанцаў. І толькі не трэба мне пра адсутнасць тут антысемітызму, бо я нервовы. Гэтак вы прыпадабняецеся да інжынера Івана Стасюка, удзельніка публічнага дыспуту на тэму «Ці ёсць антысемітызм у БССР?», што ладзіўся адным майскім вечарам на лавачцы ў двары Ераміявага-гельфандаўскага дома. На гэтым векапомным дыспуце баба Фаня з райана, прывёўшы шматлікія асабістыя прыклады і выпадкі з жыцця, здаецца, пераканаўча давяла, што антысемітызм, родненькі, ёсць, Іван Стасюк высунуў у супрацьвагу геніяльны ў сваёй вытанчанасці сілагізм: «Антысемітызму тут няма, дарагая Фаня Міхелеўна, бо я яго не адчуваю».

Дык вось, у школе Ерамію за адхіленні ад колеравай і нацыянальнай нормы лупцавалі штомоцы. Абражалі — яшчэ больш. І гэта доўжылася, пакуль на сёмым годзе біцця Ерамію не выратавала карцёжная гульня «рамс» на грошы. Не маючы здольнасцяў да спаборніцтваў і да тактыкі, на дзіва ўсёй школе Ерамія гуляў ад рана да рана, нават не наведваў заняткаў. Уваходзіў у гульню: крычаў, лётаў вакол, нервова соўгаўся і рыкаў ад нецярплівасці. Падпільноўваў, як гуляюць іншыя, рупна і доўга выпрацоўваў тактыкі ставак, блефу і хаджэння ва-банк. І заўсёды прайграваў.

Можа, у школе Ерамію і сталі лічыць яшчэ большым лашком, аднак я заўважыў цікавую акалічнасць: цяпер Ерамію перасталі лупцаваць. І зневажаць яго сталі значна менш.

Дзіва што. Суперніка, нават самага зненавіднага, не б'юць — бо ён жа не здолее ўзяць у рукі карты, якімі прагульвае табе грошы. І зневажаць таксама не рэкамендуецца — праціўнік можа пакрыўдзіцца і будзе сядзець дома, ды ягоныя багацці застануцца пры ім. Думаю, гэтак Ерамія, свядома прайграючы і стрымліваючы сваю гульнёвую спрактыкаванасць, купляў сяброў, а дакладней — падкупляў ворагаў. Вёў сваю партыю: паспяхова затыкаў хлебам рот злосніку свайму. І толькі каб выратавацца ад лупцоўкі, Ерамія гарэлку развёў вадою, а сям'ю Гельфандаў — на грошы. І потым, відаць, ад катастрафічнай нястачы прызавога фонду, створанага для падачак крыўдзіцелям, Ерамія сцягнуў тую рэч, якую скрадаць у гросмайстра нельга было ну ні ў якім разе.

Пачуўшы пра катэгарычныя Гельфандавы ўмовы ад панурага Ераміі, які цяпер на запрашэнне пасядзець сціпла адмаўляўся, я паабяцаў сябру, што дапамагу з пошукамі.

І пачаўся наш 24-гадзінны марафон. Ерамія прыгадваў маршрут сваіх рамсавых гастроляў, і мы беглі па адрасе: з Чорнага на праспект, з праспекта на Валгаградскую, Коласа, Трэцюю Пасялковую, нават з'ездзілі ў Серабранку да нейкага былога аднакласніка, які калісь вучыўся ў нашым раёне і разок перакінуўся з Ераміем у парцейку. За зварот каштоўнай рэчы Ерамія прапаноўваў былым супернікам па рамсе любыя багацці. Ушчуваў, плакаў, прасіў дазволу на вобшук хаты, станавіўся ля вушака дзвярэй на калені.

І здарыўся цуд: у кватэры нашага аднакласніка, Дзяніса Кажарчука, у вазачцы з паламанымі алоўкамі мы знайшлі тое, што беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд ацаніў значна вышэй за ювілерны выраб і стратэгічныя запасы алкаголю.

Ерамія цалаваў Дзянісу ногі. Неяк па-дзявочы абяцаў думаць пра яго з удзячнасцю штовечар перад сном (маліцца тады мы яшчэ не ўмелі). Пакуль ён гэта рабіў, Дзяніс Кажарчук распавёў, як Ерамія, прайграўшы ў гэтай кватэры ўсе свае запасы грошай, пару пляшак разведзенай гарэлкі і яшчэ нейкую металічную нядбаліцу, нават не паспрабаваў адгуляцца і адразу сышоў. Потым рэзаліся ў карты без Ераміі, але гульцы не маглі сцяміць: як аценіць гэты, падобны да юбілейнага рубля (але ўсё ж не рубель, бо без наміналу) — латунны кругляк?

Тое, што цяпер сціскаў шчаслівы Ерамія ў руках, было Гельфандавым залатым медалём за сканчэнне мінскай школы без адзінай чацвёркі.

Вось так. Потым я з'ехаў у Ізраіль, дзе меў яшчэ адну каляшахматную прыгоду, якая дазволіла мне сабраць матэрыял для апавядання «Як я выратаваў Гары Каспарава ад пэўнай смерці». Гэтае апавяданне я напішу некалі потым. Відаць, калі Гары выйграе які-небудзь чэмпіянат. Бо як жа інакш, без асаблівай інфармацыйнай нагоды, выцягваць на свет Божы гульню, якая і недаспорт, і бесперспектыўны навіновы перастарак? Гульню, на якую ўсе энергічна забыліся, як забыліся калісь на залаты медаль Барыса Гельфанда ў купе паламаных алоўкаў? Бо як інакш, без мудрагелістых уступаў і залішніх прабачэнняў, прыгадаць людзей, якія быццам і жылі-былі па тутэйшых дварах, але ад якіх цяпер амаль ні следу, ні зыку? Бо як жа інакш, зусім без нагодаў, узяць і апісаць сваё юнацтва, якое, як упарта сведчаць усе навакольныя прыкметы, не існуе ўжо нідзе, за выключэннем нашай памяці?




**Спорт**

### Burn дрыфт Мінск



**3 чэрвеня ў Мінску сталічны аэрапорт «Мінск-1»** ператворыцца ў гоначную трасу і замест самалётаў «лётаць» будуць спартыўныя аўтамабілі — адбудзецца аўтамабільнае шоу «Burn дрыфт Мінск».

**Імпрэзы**

### Ноч паядальнікаў рэкламы

**У Палацы рэспублікі 1 чэрвеня пройдзе** «Ноч паядальнікаў рэкламы-2012» — сямігадзінны начны марафон найлепшых рэкламныхролікаў з калекцыі Жана Мары Бурсіко. Пачатак а 22.00.

**Канцэрты**

### Covenant

**9 чэрвеня а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт шведскага гурта Covenant, аднаго з заснавальнікаў стылю future-pop.

### «Класік-Авангард» і Павел Кухта

**7 чэрвеня а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** лаўрэат міжнародных конкурсаў Павел Кухта (гітара) і ансамбль салістаў «Класік-Авангард» выступяць з канцэртам з твораў Х.Радрыга, Р.Дыенса, М.Джуліяні, А.Жабіма, Л.Браўэра.



### Рок за Баброў

**2 чэрвеня на аэрадроме «Баравая»** пройдзе VII штогадовы музычны фестываль «Рок за Баброў». «Начныя Снайперы» і «Горад 312» падзеляць сцэну разам з «У нескладовым», Naka, Open Space, The Toobes. Пачатак а 14-й.

### Зніч



**31 мая ў клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** зайграе ветэран беларускага фолк-металу, гурт «Зніч». Музыкі абяцаюць вялікі сольны канцэрт «Найлепшае за 16 гадоў і эксклюзіўныя песні». Пачатак а 19-й.

### Гарык Сукачоў

**31 мая на сцэне Палаца спорту** — расійскі рок-спявак Гарык Сукачоў. Пачатак а 20-й.

### Boo Cantabile

**3 чэрвеня а 19-й на сцэне Малой залы імя Р.Шырмы** выступае камерны хор Boo Cantabile (Швецыя, Стакгольм). У праграме: харавая музыка шведскіх кампазітараў, шведскія народныя песні.

### musik + X

**Да 30 чэрвеня ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «musik + X». Гэта фестываль, дзе кожны аматар сучаснай музыкі знойдзе штосьці на свой густ. У чатырох залах прадстаўленыя чатыры музычныя напрамкі: поп-музыка, індзі-рок, хіп-хоп ды тэхна, а таксама звязаная з імі атрыбутыка. Галоўныя элементы выставы — вялікія праекцыі, дзе «грае музыка».



### Веткаўскія абразы

**Да 23 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Веткаўскія абразы XVIII–XIX стст. у шытых бісерных акладах». На выставе паказана 50 прадметаў: абразы ў акладах, асобныя бісерныя аклады на абразы.

**Выставы**

### Палац вялікіх князёў літоўскіх

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава са зборaў Нацыянальнага музея Літвы «Палац вялікіх князёў літоўскіх». Экспазіцыя прысвечана гісторыі палаца, жыццю і дзейнасці вялікіх князёў. Можна пабачыць прадметы інтэр'ера, археалагічныя знаходкі. Выстава знаёміць наведнікаў з унікальнымі ўзорамі мэблі, прадметамі побыту і хатняга ўжытку, габеленамі XV — XVI стст., керамікай XIV—XIXI стст., рэдкімі ўзорамі даспехаў, зброі, картаграфіі і атрыбутыкі часоў Вялікага Княства Літоўскага.

### Не пакідай мяне, мой светлы сум...

**30 мая а 17-й у малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** адкрыецца выстава акварэлі Ніны Пілюзінай «Не пакідай мяне мой светлы сум…».

Прывабнасць мастацтва Ніны Пілюзінай — у яе добразычлівасці: яна зычыць дабра ўсім людзям, усяму існуючаму на зямлі, усяму святламу, што ёсць сёння і што было ў Сусвеце, які спарадзіў гэтую незвычайную мастачку.

### О, Вільня, крывіцкая Мекка!

**У літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа** працуе выстава «О, Вільня, крывіцкая Мекка!», падрыхтаваная сумесна з віленскім Літаратурным музеем А.С.Пушкіна.

Выстава «О, Вільня, крывіцкая Мекка!» не толькі пазнаёміць наведвальнікаў з пушкінскімі мясцінамі, з домам-сядзібай Маркучай, якая з'яўляецца цэнтрам памяці аб паэце ў Вільні, але і зверне ўвагу на Вільню Якуба Коласа.

**тэатры**

### 27 мая

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 28 мая

**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 29 мая

**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя любві»

### 30 мая

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Трубадур»

### 31 мая

**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Мыйдадзір»

### 3 чэрвеня

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»

### 4 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 5 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды».
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»

### 6 чэрвеня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Самотны захад».
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Кругі раю»

### 7 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка».
**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Віліса»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 8 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Віліса»

### 9 чэрвеня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»

**кіно**

### Настальгія людзей у чорным

**Людзі ў чорным** (Men in Black III)
ЗША, 2012, каляровы, 3-D, 103 хв.
**Рэжысёр:** Бары Зонэнфельд
**Ролі выконваюць:** Уіл Сміт, Томі Лі Джонс, Джош Бролін, Джэмейн Клемент, Эма Томпсан, Майкл Стулбарг
**Жанр:** іранічныя фантастычныя прыгоды, баявік
**Адзнака:** 6 (з 10)

Злы іншапланетнік Барыс уцёк з Месяца, а агент Джэй губляе свайго напарніка. Высвятляецца, што агент Кей быў забіты яшчэ ў 1969. Ён так і не запусціў абарончы шчыт — і Зямля атакаваная. Агент Джэй адпраўляецца ў мінулае выратаваць сябра і ўсё чалавецтва. «Людзі ў чорным» заўжды вылучаліся бадзёрым дзеяннем, густоўнымі эфектамі і неверагодтай дасціпнасцю. Трэцяя серыя пра прыгоды Томі Лі Джонса і Уіла Сміта мае ўсё гэта. Нахабны іншапланетнік з дрэсіраваным крабам, кітайскі рэстаран з рыбамі далёкага космасу, скачок у мінулае з даху хмарачоса і кпіны з Джэймса Бонда упрыгожваюць карціну і не дадуць гледачу засумаваць.

**Андрэй Расінскі**



# З чым найлепш есці беларускі ракфорці?

Рэпарцёр «НН» каштаваў першы **беларускі сыр з цвіллю**.

**Агульны вынік:** рэкамендую, запамінаецца.

**З чым трэба прымірыцца:** першая партыя выйшла перасоленая. Тэхнолагі прызнаюць хібу і маюць трохі змяніць рэцэпт. Гэта азначае, што зменіцца і смак, і сыр стане іншым, з новымі нюансамі і пасляcмакамі.

**З чым не магу пагадзіцца:** найперш, з назвай. Сыры з цвіллю вырабляюць у розных краінах. У кожным месцы ён удаецца па-свойму. Самыя знакамітыя, з даўняй гісторыяй — гэта французскія Ракфор, Блё д'Аварнь, італьянскі Гаргандзола. Англійскі Стылтан вядомы гадоў 300. А вось датчане свой Данаблю робяць толькі ад пачатку XX стагоддзя. Ну і што — ён таксама стаў ужо візітоўкай Даніі і часткай кулінарнай традыцыі.

Лагічна было б і беларускаму даць сваю назву — умоўна кажучы, Нарач Сіні. І пад ёй ужо выводзіць на рынак. Бо ад назвы «Ракфорці» патыхае нейкай калхознасцю, як ад кітайскіх падробак Panasoanic.

Урэшце, нелагічна называць гэты сыр Ракфорці хоць бы таму, што арыгінал Ракфор — авечы, тады як беларускі — з каровінага малака, як і Данаблю. Дарэчы, для вырабу беларусы выкарыстоўваюць менавіта пеніцылінавыя грыбкі вытворчасці Даніі, таму ад Данаблю наш сыр менавіта і паходзіць.

**Што за цвіль у ім?** Сталінская «Энцыклапедыя аб смачнай і здаровай ежы» пісала пра сыры тыпу ракфор ці камамбэр так: першы раз вам не будзе смакаваць, але калі яшчэ раз пакаштаваць, вы адчуеце вялізную асалоду.

Калі навуцы антыбіётыкі былі яшчэ не знаёмы, то пастухі гоілі раны, прыкладаючы да іх кавалкі Ракфору. Рэч у тым, што цвіль у гэтым сыры дае грыбок Penicillium roqueforti, той самы, з якога з часам пачалі выраблаць гаючы пеніцылін. Увогуле, такі сыр сталі выраблаць натуральна, у пячорах Ракфор-сюр-Сульзона ў Францыі, дзе трымаецца роўная тэмпература, дзе сыра і той грыбок натуральна бытуе. Ракфор спее ў пячорах больш за 3 месяцы.

Першы раз аналагічны сыр згадваецца яшчэ ў Плінія. А такія сыры іншых краін пачалі выраблаць тады, калі мясцовыя жыхары не хацелі пераплачваць за дарагі імпартны, французскі, або калі вайны і блакады адразалі шляхі пастаак.

**Што за сінія палоскі з цвіллю?** Гэта яго па меры даспявання пратыкаюць меднымі дратамі, каб цвіль пашыралася па ўсёй мякаці. Дарэчы, добры ракфор найлепш рэзаць не нажом, а спецыяльным станком з дротам, які не разбурае кубельцы высакароднай цвілі.

**Чаго ён у фользе?** Каб не перасыхаў.

**З чым есці беларускі ракфорці?** Каб разабрацца, патрэбны эксперыменты і спробы. Вытворца ніякіх парад не дае, што лішні раз паказвае на яго недасведчанасць.

Мой сціплы журналісцкі заробак не дазволіў купіць вялікі кавал гэтага сыру (на Камароўцы і ў гіпермаркетах ён каштуе каля 120 тысяч за кілаграм, і па такой цане ўсё будзе заставацца для беларусаў ласункам, а не прадуктам масавага ўжытку).

Таму раскажу тое, што паспеў адчуць. Як і ўсе сыры гэтага тыпу, наш нарачанскі ракфорці мае рэзкі і саланаваты смак і вельмі далікатны, з ноткамі арэху і грыбоў, мяккі, то саланаваты, то саладкаваты пасляcмак. Без нічога вы яго шмат не з'ясце — ён усё ж занадта ёмкі, пранізлівы.




Класічнае спалучэнне для сыру — з праснаватым пшанічным хлебам, кшталту нашага Палескага, або з французскім багетам (але не з батонам, не з тлустым ці салодкім хлебам).

Можна браць на хлеб трохі масла — для змякчэння смаку.

З вінаў да сыроў тыпу ракфор пасуе досыць выразнае, ёмістае, церпкаватае чырвонае сухое віно, калі сыр сярэдняй моцы, нярэзкі, і салодкае мускатнае віно ці партвейн, калі ён рэзкі.

Данаблю выдатна пасуе да садавіны. Яго ядуць таксама ў бутэрбродах і салатах.

Пад нямецкім Дорблю смачна запякаць ласось. Ракфорны соўс таксама добра пасуе да антрэкота. Яшчэ паспрабуйце калісці пацерці яго на макарону. Або ў рызота. Нарэшце, ён ідэальна пасуе да піцы.

Англічане і французы выпякаюць цэлы стол дэсертаў з дадаткам ракфору. Каб Ракфорці найлепш выявіў свой смак, перад спажываннем ён павінен паляжаць з гадзіну без лядоўні.

Калі пачнецца сезон клубніц, пакаштуйце яго з ягадамі. Гэта можа аказацца смачна. І яшчэ адно: ракфор не ядуць проці ночы. Навукоўцы выявілі, што гэта можа выклікаць яркія або кепскія сны.

Не шкадуйце патрыяцця на прадукты кшталту Ракфорці — гэта адзін з шэдэўраў, або, кажучы старабеларускай мовай, «кшталтаў» людскога кулінарнага генія. Хоць наш Ракфорці грубейшы за свае дацкія і французскія аналагі — будзем спадзявацца, гэта часова.

**Сяргей Гезгала**

# Топ-5 беларускіх праграм для Андроідаў

Што **запампаваць на смартфон**, каб зрабіць жыццё больш камфортным?

Разумныя тэлефоны (смартфоны) здабываюць усё большую папулярнасць сярод беларусаў, перадусім праз сваю даступнасць. Б/у-смартфон з аперацыйнай сістэмай Android ужо можна набыць менш чым за $100. Такія мабільнікі займаюць каля 40% беларускага рынку, прычым аб'ёмы продажаў працягваюць расці.

Агульная колькасць праграм, якія можна запампаваць сабе на смартфон, даўно перавысіла паўмільёна. З іх ёсць і некалькі дзясяткаў, распрацаваных для беларускіх рэаліяў. Такім чынам, топ-5 бясплатных праграм на Android, карысных для беларусаў.

**Беларусізацыя**

Аперацыйную сістэму можна перакласці на родную мову з дапамогай праграмы «Андроід па-беларуску» (android.bel). Аднак устанаўліваць яе трэба на ўласную рызыку — існуе невялікая небяспека, што праграма пашкодзіць сістэмныя файлы, тады давядзецца «перапрашываць» тэлефон.




**Смартфон бясплатна падкажа, які транспарт і ў колькі прыедзе.**

**1. Беларусь. Навіны (daingo. news.belarus)**

Хуткі доступ да 15 самых папулярных навінных рэсурсаў. Сярод іх «Наша Ніва», «Хартыя'97», «Беларускі партызан»... Ёсць і некалькі расійскіх парталаў. Праграма даволі простая, фактычна, гэта набор спасылак, якія выводзяць карыстальніка на запытаныя сайты.

**2. Баланс.BY (vladyud.balance)**

Праграма для кантролю сваіх рахункаў у рэжыме анлайн. Можна праверыць свой баланс ва ўсіх чатырох аператараў, а таксама ў большасці інтэрнэт-правайдараў. Для падключэння патрэбны наладжаны інтэрнэт-памочнік на сайце кожнага з аператараў. Бясплатная версія праграмы працуе з 7 акаўнтамі — хопіць нават на вялікую сям'ю.

**3. Расклад руху (transpot)**

Найлепшая праграма з раскладам сталічнага грамадскага транспарту. Калі ўвесці назву прыпынку, можна атрымаць спіс усіх маршрутаў, якія спыняюцца на ім, а таксама час іх прыезду. Існуе і ўбудаваная Google-мапа з нанесенымі прыпынкамі, і нават расклад руху метро. А вось пра маршрутныя таксі інфармацыі няма.

**Як загрузіць праграмы?**

Зайсці ў праграму Google Play ў сябе на смартфоне і ўвесці ў пошук назву праграмы (англійскія літары ў дужках). Напрыклад, для раскладу транспарту гэта transpot.

**4. Правілы дарожнага руху (by. pdd.rules) і Тэсты па правілах дарожнага руху (by.pdd.tasks.test)**

Набор з дзвюх праграм, якія не даюць забыцца на свае веды за стырном. Гэта інтэрактыўныя правілы дарожнага руху і тэст на іх веданне, такі самы, які здаецца ў аўташколах. Распрацоўшчык праграм — ПВУП «Новы параот» — узгадняе свае пытанні з ДАІ, таму ў іх адпаведнасці правілам можна не сумнявацца.

**5. Карысныя тэлефоны Мінска (keyhell.muc)**

Тут усё проста. Даведнік, у якім сістэматызаваная безліч нумароў — ад аварыйных службаў да медыцынскіх паслугаў, дастаўкі ежы і таксі. Інфармацыя толькі па сталіцы.

**Ягор Марціновіч**



СЯРЖУК СЕРАБРО

У Віцебску прайшоў Дзень пацалункаў. У прыгожай акцыі ўзялі ўдзел з паўсотні пар.




Litesound распісалі дзяржаўны сцяг надпісамі ў свой гонар. Сімволіка — не найлепшае месца для нанясення надпісаў тыпу «Лайтсаўнд — героі». Менавіта з такім сцягам беларускія музыкі сфатаграфаваліся ў аэрапорце Баку.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На плошчы Свабоды ў Мінску 26 мая адбыўся флэш-моб. Каля 200 чалавек раптам замерлі ў адвольных позах. Акцыя праводзілася моладзевай арганізацыяй «Авангард».




Міністра замежных справаў Беларусі Сяргея Мартынава ўшанавалі мемарыяльнай шыльдай ў родным горадзе Гюмры (Арменія). За саветамі горад называўся Ленінаканам.

## Анекдоты

* * *

24 мая. Сусед ёлку выкінуў. Слабак!

* * *

Пасяўную будзе кантраляваць міліцыя, а надвор'е забяспечыць прэзідэнт.

* * *

Сатаніст Андрэйка пасля канцэрта Саладухі першы раз у жыцці перахрысціўся.

* * *

У дзяцінстве дзяўчынка Люба заўсёды прасіла купіць ёй брацiка, а калі вырасла — сур'ёзна занялася рабагандлем...

* * *

Цікавая прыказка: «У каровы малако на языку».

Вось дзіва! У нашага старшыні калгаса ўсе дасягненні на языку.

* * *

— Вось гэта ад стомленасці, гэта — ад нервовага напружання, а гэта — ад дэпрэсіі ...

— Дзякуй, доктар, дзякуй ... А ў Вас акрамя гарэлкі нічога няма?

* * *

— Вы з Багдановічам знаёмыя?

— Не.

— З Купалам, з Коласам?

— Таксама не.

— Ну, можа, з Быкавым ці хоць з Караткевічам?

— Не.

— Да пабачэння!

Каля аўдыторыі яго пытаюць:

— Ну як, прынялі?

— Не, тут толькі па блату. А я, выходзіць, ні з кім не знаёмы...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Рудзішкі. Троцкі павет.** Тут было такое здарэнне: адна сялянская сям'я, назбіраўшы смаршчкоў, наварылі іх, ды перад тым, як варыць, гэтыя веснавыя грыбы, у каторых між зморшчынкамі ёсць крэпкая атрута, добра не ачысцілі, вось калі яны наеліся гэтых грыбоў, то ўсе пахварэлі. Сынок іх васьмігадовы хлапчук памёр у скорым часе, а рэшту сям'і паклалі ў бальніцу ў Вільні.

**«НН». №19—20. 1912.**

**Рашэнне пра дэвальвацыю прынятае.** Падзенне курса рубля моцна адаб'ецца на бюджэтніках. Не так балюча будуць перажываць дэвальвацыю работнікі прыватных фірмаў, дзе заробак выплочваецца з «умоўных адзінак». Ахвярным казлом дэвальвацыі, па логіцы рэчаў, павінен стаць наш «дзіўны прэм'ер» Навіцкі. Нехта ж мусіць адказваць перад электаратам за спусташэнне кішэняў.

**«НН». №20. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

Падпісны індэкс:
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фармата А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8003. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 29.05.2012.
Замова № 2302.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12